*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
19
ЛІПЕНЯ
1991 г.
№ 29 (3595)

ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.

КОШТ—15 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)

## РЭЛІГІЯ І МОВА



«Беларусы дасюль не маюць голасу ані ў касцёле, ані ў царкве... А беларускі чалавек — ці ён каталік, ці праваслаўны — мае права, каб з ім у храме гаварылі пабеларуску. Так ёсць ва ўсім свеце, так павінна быць і ў нас».
Ксёндз Ул. ЧАРНЯЎСКІ.



## СВЯТЛО І СМУТАК

Дзве думкі пра творчасць Валянціны Аколавай.



## НА МЯЖЫ МАСТАЦТВА І ЖЫЦЦЯ



«Першае, пра што падумалася пасля вандроўкі з тэатрам «Верасень», — дык гэта ж... другі Галубок. Традыцыя народнага тэатра, якая нібыта перапынілася назаўсёды, жыве!»

Нататкі з палескай вандроўкі.



## НАША ВЕРА

Англічанка з беларускай духоўнасцю.



## ДЗЕЛЯ КАРЫСЦІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ...



Лёс і творчасць Казіміра Альхімовіча.





Летнім ранкам — да вады.

Фота А. КЛЕШЧУКА

## ВЕРНУТЫ СЛОЎНІК ЛАСТОЎСКАГА




Праз шэсцьдзесят сем гадоў зноў прыйшоў да чытача «Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік» Вацлава Ластоўскага. Як вядома, у якасці выдання Міністэрства беларускіх спраў у Літве ён пабачыў свет у 1924 годзе ў друкарні А. Бака, якая знаходзілася ў Коўне. Цяпер жа коштам Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка» зрабіла факсімільнае выданне з паасобнікаў, што захоўваюцца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа і ў бібліятэцы Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР.

Думаецца, не страціла сваёй актуальнасці прадмова аўтара, напісаная даўно і адначасова як быццам сёння: «Выпушчаючы ў сьвет гэты слоўнік я цікаваў галоўным чынам практычную мэту і даў «Расійска-Крыўскі слоўнік» дзеля таго, што, мне думаецца, карыстацца ім будуць больш тыя, якія добра ведаюць мову расійскую, але слаба сваю — крыўскую, бо кожды наш інтэлігент вучыўся расійскай мовы ў школах, а сваю найчасьцей знае тольк з наслыху».



## ТОЙ САМЫ «ЖОЎТЫ ДОМ»?

*Так ужо павялося ў нашым грамадстве, што каб мастаку зрабіць выставу, трэба «заслужыць на гэта права». Вось і выкідвае непадступнасць бастыёнаў Саюза мастакоў маладых творцаў на «панель», што ля мастацкага салона... Але не ўсіх задавальняе роля лубочнікаў. Яны прагнуць кантакту з людзьмі, яны жадаюць, каб на іх працы глядзелі не толькі як на тавар, але ў першую чаргу як на твор мастацтва. Вось якія маладыя мастакі, аб'яднаныя ў творчую суполку «Жоўты дом», аплаціўшы з уласнай кішэні ўсе расходы, выставілі свае творы ў выставачнай зале Музея гісторыі беларускай літаратуры, што на Траецкім прадмесці (вул. Горкага, 15). І гэта сапраўды «жоўты дом», пра які марылі некалі Ван Гог і Гаген, бо тут сапраўднае сужыццё стыляў: ад сюррэалізму Андрэя Вацуры да аскетычнага сімвалізму Сяргея Коваля.*

*Прыходзьце, калі ласка, на выставу, вас чакаюць. Бо побач з карцінамі — самі маладыя творцы, яны з радасцю сустракаюць кожнага наведвальніка, гатовыя пра ўсё распавесці і ўсё паказаць. А дзецям дадуць фарбы і пэндзлі, і яны таксама стануць мастакамі на кароткі час. А можа, і на ўсё жыццё...*

Фота Андрэя ПЯТРЭНІ.

# Заява Беларускага ПЭН-цэнтра

**Дзеля выканання XII Рэзалюцыі Асамблеі дэлегатаў Міжнароднага ПЭН-клуба «Міжнародная салідарнасць з ахвярамі аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі», унесенай Беларускім ПЭН-цэнтрам (Парыж, 26 красавіка 1991 г.) і беручы пад увагу ліст Генеральнага сакратара Міжнароднага ПЭН-клуба Аляксандра Блока Прэзідэнту СССР Міхаілу Сяргеевічу Гарбачову ад 2 мая 1991 г., які адлюстроўвае адносіны Асамблеі да трагедыі, а таксама да замоўчвання праўды пра яе, Беларускі ПЭН-цэнтр працягвае трымаць чарнобыльскую праблему ў полі зроку. Сябры Беларускага ПЭН-цэнтра ўважліва азнаёміліся з нядаўна апублікаваным дакладам Міжнароднага кансультатыўнага камітэта МАГАТЭ «Радыелагічныя вынікі аварыі на Чарнобыльскай АЭС у СССР: ацэнка ўздзеяння на здароўе насельніцтва і навакольнае асяроддзе і ацэнка ахоўных мер», які з дапамогай сродкаў масавай інфармацыі атрымаў даволі шырокую вядомасць у свеце.**

**Прызнаючы карыснасць такога праекта МАГАТЭ, да падрыхтоўкі якога былі прыцягнуты вядомыя эксперты, Беларускі ПЭН-цэнтр бярэ на сябе смеласць не згадзіцца з шэрагам яго надта спрэчных высноў і заключэнняў, таму што яны ўлічваюць далёка не ўсе дадзеныя, а часта і супярэчаць рэальным фактам трагічнай рэчаіснасці ў Беларусі. Гэта тычыцца, у прыватнасці, беспадстаўна аптымістычных высноў даклада, калі гаворка ідзе пра ўздзеянне радыяцыі на здароўе людзей, і ацэнкі варыянтаў канцэпцыі пражывання на забруджаных тэрыторыях. Даклад, на жаль, таксама абыходзіць маўчаннем многія рэальныя бакі праблемы, якія існуюць у Беларусі.**

**У гэтай сувязі звяртае на сябе ўвагу той відавочны факт, што слабасць сваёй пазіцыі, непераканаўчасць сваіх вывадаў усведамляюць і самі аўтары даклада, калі яны прызнаюць у ім, што «высновы і рэкамендацыі абумоўлены рамкамі і абмежаваннямі задумы праекта», што «ў ідэальным выпадку групы экспертаў, якія працавалі над ажыццяўленнем праекта, павінны былі мець час і рэсурсы, дастатковыя для дакладнага вывучэння і незалежнай праверкі ўсёй даступнай ім інфармацыі, а таксама для правядзення больш шырокіх незалежных аналізаў», што нібыта «нерэальна было разлічваць на магчымасць правядзення такіх усеабдымных работ, ды яны і не былі б цалкам апраўданыя».**

**Па сутнасці, даклад МАГАТЭ адлюстроўвае перш за ўсё пазіцыю ядзернай прамысловасці, непасрэдна зацікаўленай у вытворчасці, устаноўцы і эксплуатацыі ўсё новых і новых атамных рэактараў, і, такім чынам, ва ўтойванні сапраўдных маштабаў чарнобыльскай трагедыі. Складваецца ўражанне, што экспертыза МАГАТЭ адлюстроўвае мэтанакіраваную палітыку гэтай арганізацыі, яе накіраванасць на ўсялякае развіццё атамнай энергетыкі, яе стратэгію барацьбы з узрастаючым недаверам у свеце да гэтага віду энергетыкі. Таму многія аўтарытэтныя вучоныя ставяць пад сумненне незалежнасць экспертыз і ацэнак МАГАТЭ ў адносінах да чарнобыльскай катастрофы.**

**У сувязі з гэтым Беларускі ПЭН-цэнтр заклікае ўсе нацыянальныя ПЭН-цэнтры:**

**— адшукаць магчымасць, каб апублікаваць у прэсе вышэйпамянёную Рэзалюцыю Парыжскай Асамблеі дэлегатаў, ліст Аляксандра Блока Міхаілу Гарбачову ад 2 мая 1991 г., а таксама дадзеную Заяву, і дасылаць копіі публікацый Беларускаму ПЭН-цэнтру;**

**— лічыць, што праведзеную МАГАТЭ экспертызу ацэнкі вынікаў чарнобыльскай катастрофы для жыцця і здароўя людзей у Беларусі і іншых пацярпеўшых рэгіёнах СССР НЕЛЬГА ПРЫЗНАЦЬ КАНЧАТКОВАЙ; таму неабходна працаваць далей у гэтым плане на нацыянальным і міжнародным узроўнях. У прыватнасці, мэтазгодна правесці дадатковыя паглыбленыя даследаванні яшчэ не ахопленых МАГАТЭ аспектаў чарнобыльскай праблематыкі з прыцягненнем спецыялістаў Беларусі, Украіны і Расіі, міжнародных арганізацый, аўтарытэтных грамадскіх рухаў, у тым ліку Міжнароднага ПЭН-клуба;**

**— прасіць Пагуошскі рух умяшацца і ажыццявіць сапраўды незалежную экспертызу экспертыз з дапамогай вышэйпамянёных арганізацый;**

**— праявіць салідарнасць з заклікам Генеральнага сакратара ААН Х. Перэса дэ Куэльяра аб шчодрай і даўгачаснай дапамозе ахвярам катастрофы ў сувязі з пятымі ўгодкамі аварыі на Чарнобыльскай АЭС;**

**— давесці да ведама грамадскасці, што Беларускі ПЭН-цэнтр прымае ахвяраванні ад розных арганізацый і прыватных асоб, якія жадаюць дапамагчы тым, хто пацярпеў ад аварыі; пры гэтым Беларускі ПЭН-цэнтр гарантуе эфектыўнае выкарыстанне сродкаў і поўную інфармацыю пра канкрэтнае прызначэнне кожнага ахвяравання.**

**Рыгор БАРАДУЛІН,**
**прэзідэнт Беларускага ПЭН-цэнтра.**

## ГРУНВАЛЬД, 581-я ГАДАВІНА

Летась у Мінску ўпершыню адзначалася 580-я гадавіна бітвы народаў пад Грунвальдам, дзе аб'яднаныя сілы беларусаў, літоўцаў, палякаў, украінцаў пры ўдзеле татарскіх, рускіх, малдаўскіх і чэшска-мараўскіх атрадаў перамаглі крыжакоў...

Сёлета гадавіна перамогі ў Грунвальдскай бітве паклікала нас у касцёл Святога Роха на Залатой горцы ў Мінску, каб набажэнствам на беларускай мове, якое вёў малады беларускі ксёндз Міхал Сапель, успомніць загінуўшых нашых продкаў, усвядоміць яшчэ раз іх подзвіг.

Затым удзельнікі дня памяці Грунвальда сабраліся на старажытным менскім замчышчы, дзе 581 год назад, відаць, сыходзіліся воіны менскага ваяводства ў паход на бітву з крыжакамі. Сёння ж нашчадкі беларускіх ваяроў, баяраў, дваранаў-шляхты ды князёў шэсцем з харугвамі Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага ды сцягамі-вымпеламі з родавымі гербамі рушылі адсюль праз Верхні горад (пляц Волі) ў зялёны Купалаўскі парк да помніка высакароднага Янкі Купалы — Івана Дамінікавага сына Луцэвіча, гербу Навіна. Тут і адбыліся ўрачыстасці з нагоды Грунвальдскай бітвы.

Гучыць урачыстая музыка, сігнал «Увага» на сурмах у выкананні Уладзіміра Пузыні і ягонага сына Алеся. Па флагштоках уздымаюцца сцягі ваяводскія і Вялікага княства Літоўскага. Побач выстраіліся з выявамі родавых гербаў прыхільнікі беларускага рыцарства са «Згуртавання беларускай шляхты» і «Выбранецкіх Шыхтоў».

Прамаўляюць народныя дэпутаты, прадстаўнікі творчых, грамадскіх арганізацый. Іх слухаюць жыхары Мінска, госці з Полацка, Наваградка, Вільні, Гомеля, Бабруйска і іншых гарадоў. Мы, беларусы, падкрэслівалася ў прамовах, павінны таксама ўвекавечыць гістарычную славутую перамогу нашых продкаў помнікамі, назвамі, мастацкімі творамі, кінафільмамі ды больш надаваць увагі выхаваўча - патрыятычнаму значэнню бітвы каля Грунвальда (Дуброўна), больш аб'ектыўна вывучаць гісторыю сваёй дзяржавы, краю і нават асобных сёлаў-родаў, захоўваць і перадаваць нашчадкам.

**Леанід АКАЛОВІЧ.**

АДГАЛОСКІ

# Бальшавіцкая сходка

Пра канферэнцыю прыхільнікаў бальшавіцкай платформы ў КПСС, якая праходзіла ў Мінску, напісана і сказана нямала. Тое, што адбылося, павучальна ў некалькіх аспектах. Гэта — своеасаблівы індыкатар. Той, хто жыве ў плыні часу, не заўважае яго цячэння. А паслухаўшы прамовы ўдзельнікаў канферэнцыі, востра ўсведамляеш, наколькі ўсё ж змянілася наша грамадства за апошнія гады. Тое, што гадоў дзесяць назад было афіцыйным сімвалам веры, сёння стала ледзь не забаўнай экзотыкай. Пры гэтым з'яўленне ленінцаў-сталінцаў, якія выкрываюць «здрадніка і буржуазнага рэстаўратара» Гарбачова, — цалкам прыкмета нашага часу. Таталітарызм у яго нармальным стане прыцiскае любую крытыку нават з яго ўласных ідэйных пазіцый. Акрамя таго, наяўнасць любых, легальных палітычных груповак, у тым ліку і самых крайніх, — ці ж гэта не прыкмета дэмакратыі? Церпіць жа, пасмейваючыся, скажам, амерыканскае або англійскае грамадства сваіх сталіністаў і камуністаў. Свабода — гэта свабода самавыяўлення і для іх.

Аднак настроіцца на такі спакойны, іранічны, гэтакі брытанскі лад пакуль не атрымліваецца. І не таму толькі, што ў нас спецыфічны гістарычны вопыт Курапатаў і Калымы; мы ведаем і помнім, што крывавая утопія можа быць рэальнасцю. Справа ў тым, што для нас гэта утопія і дагэтуль у значнай меры — рэальнасць. І ў нашых умовах сход сталіністаў — напамінак пра тое, што мы па-ранейшаму жывём у таталітарным грамадстве. Асабліва ў Беларусі.

Невыпадкова ж бальшавіцкая сходка прайшла гэтак спакойна менавіта ў нас; з іншых гарадоў СССР гэтых таварышаў ветліва выправоджвалі. Ды і сярод дэлегатаў амаль палова была з Беларусі. А з якой пяшчотай прымаў усесаюзных сталіністаў гасцінны ЦК КПБ! Тут і будынак палітасветы абкома КПБ, і гасцініца ВПШ для прыезджых, і сакратар ЦК па ідэалогіі Аркадзь Русецкі, які ўважліва слухаў прамовы камуністычных фундаменталістаў з балкона залы палітасветы.

Вядома, камуністычныя кіраўнікі Беларусі апынуліся ў дваістым становішчы. З аднаго боку, як рэальныя палітыкі яны разумеюць, што бальшавіцкая платформа мае няшмат шанцаў на поспех ва ўнутрыпартыйнай барацьбе. Кіраўніцтву ЦК КПБ адкрыта далучыцца да гэтай платформы — вялікая рызыка, ім ёсць што губляць у адрозненне, скажам, ад іхніх калег у Балтыі. Але, з другога боку, паводле праніклівай заўвагі Ніны Андрэевай, пазіцыі бальшавіцкай платформы і ЦК КПБ вельмі блізкія. Блізкасць гэтая задушэўная. Каб перакanацца ў гэтым, не трэба нават ведаць пра сарамяжлівыя манеўры ЦК вакол канферэнцыі. Дастаткова пачытаць беларускія партыйныя газеты, «Политический собеседник», «Мы и время», «Славянские ведомости», паслухаць нашых натхнёных камуністычных прамоўцаў у Вярхоўным Савеце, на пленумах і з'ездах, каб адчуць ступень духоўнай роднасці. Нашы стаўпы камунізму, вядома, менш паслядоўныя, больш сціплыя за «платфармістаў», але гэта не столькі ад правінцыялізму, колькі ад перасцярогі.

Яны хітруюць, складаюць складаныя камбінацыі, змагаюцца з ненавіснымі дэмакратамі. Але ў душах — надзея на цуд, на тое, што ўсё вернецца. Усё! І гэтае іх спадзяванне цяжарам ляжыць на беларускім грамадстве. Не трэба разбураць помнікі Леніну. Ім будзе пра што нагадваць нашым нашчадкам.

**Юрый ДРАКАХРУСТ.**

памяццю зведанай радасці і сягаць думкай у будучыню.

Кніга «Вяртанне ў заўтра» сведчыць пра творчы рост паэткі, яе апантаную духоўную працу. У адрас аўтара зборніка, безумоўна, хацелася б сказаць яшчэ не адно добрае слова, але роля рэцэнзента не дазваляе ўпадаць у стан эйфарыі. Асобныя творы і радкі В. Аколавай небездакорныя, а то і слабыя. З эмацыянальна-сілавога поля некаторых паэм вершы часам «выпадаюць», падаецца, што яны штучна ўведзены ў лірычную тканіну твора. У паэмцы «Паклон Беларусі», думаецца, такая выпадковая міні-частка «17 чэрвеня 1986 года», не зусім даведзены да гармоніі лірычнай думкі «Пастскрыптум для крытыка-дзядзькі», які завяршае твор «Галасую за мову случанскім радком». Па танальнасці «Пастскрыптум...»—водпаведзь былым і будучым крытыкам. Увогуле кажучы, ці не залішне ў кнізе паэтка высвятляе адносіны з «дзядзькамі-крытыкамі» і ці не завельмі часта яна рупіцца даць рэкламу свайму радку?

Там-сям страфа В. Аколавай захлінаецца ад празмерных эмоцый, зрэдку надараюцца квяцістыя і туманныя «паэтызмы»: «След ласіны травы не гукне за сабой...», «Быццам неба спрабуе хадзіць па лязу», «Пад ногі веку ўпаў туман...» і інш. У кнізе сярод інтымных радкоў сустракаюцца трафарэтныя варыяцыі аднаго і таго ж пачуцця, надакучае і аднастайнасць, устойлівасць вобразаў: каліны, гром, рабіны... Прысутнічае ў некаторых радках эфект гіпербалізацыі, які, аднак, не ўражвае нейкай псіхалагічнай яркасцю і глыбінёй: «Пра Вернасць на Зямлі загаварыла», «Стаў, як брат для Сусвету, бальнічны мне дом», «Зямны боль-прастор» і інш.

Нягледзячы на прыкрыя недахопы, трэба адзначыць, што верш у В. Аколавай сталее, набірае новай вабнасці і гожасці.

**Алесь БЕЛЬСКІ.**

---

му што на 234 старонках кнігі слова «сляза» (у розных ліках і склонах) сустракаецца больш за 80 разоў — у сярэднім у кожным чацвёртым вершы. І хоць не вельмі хочацца верыць чарговай, няхай найчысцейшай слязе, але паверым аўтару:

**...Пакуль боль слоў сябе не**
**ашукаў —**
**Датуль у лёс — не штампы,**
**не паўторы...**

Паэзія В. Аколавай прасякнута працай штодзённай, пакутнай, самаахвярнай. Яна адчуваецца амаль у кожным радку. У «Эпілогу страфы» паэтка сама гаворыць: «Цярпі, рука, мазольны гнеў радка!...» «Цярпі, рука, прыкутасць да радка!..» «Мазолі слоў. Яны да скону вучаць, Што нельга жыць без працы...»

Мабыць, ёсць станоўчае ў тым, што паэтка паказвае, якое цяжкае для яе пяро, колькі трэба намаганняў, каб выканаць загад ці просьбу натхнення. Толькі вельмі дрэнна, калі праца над вершамі ператвараецца ў механічнае «красворднае» складанне. Калі ў падсвядомасці ўжо даўно створана схема, і застаецца ўпісаць патрэбныя літары (словы). Калі пануюць застыласць формы, звычайнасць сэнсу і статычнасць пачуцця. Калі поўны штыль і ніводнага воблачка на даляглядзе...

Што ж, застаецца далучыцца да пажадання В. Аколавай з верша «Пастскрыптум для крытыка-дзядзькі», напісанага самой сабе: «Страфа мая, не апранай карсэту!»

**Сяргей МІНСКЕВІЧ.**

---

**ЧАСОПІСЫ: ЧЭРВЕНЬСКІЯ НУМАРЫ**

# Тон задае публіцыстыка...

На вокладцы чэрвеньскага нумара «Полымя» пазначана прозвішча чалавека, які на сённяшні дзень з'яўляецца ўвасабленнем гонару нацыі: «Васіль Быкаў. Вярнуць гуманістычны ідэал. Інтэрв'ю». Пісьменнік у размове з крытыкам Ванкарэмам Нікіфаровічам закранае надзённыя пытанні нашага нацыянальнага Адраджэння, вяртання чалавеку духоўнасці. Сярод ягоных разваг ёсць і такая. В. Нікіфаровіч, згадваючы «цудоўныя дні Уладзіміра Караткевіча і тое свята, якое было ў Віцебску, а потым у Оршы... і Шагалаўскія дні, своеасаблівае вяртанне майстра на Віцебшчыну», заўважае: «значыць, не ўсё яшчэ страчана, трэба змагацца, верыць і думаць пра тое, што яшчэ шмат можна зрабіць, захаваць многае, вярнуць нацыянальныя каштоўнасці і каштоўнасці іншых народаў, якія павінны арганічна ўвайсці ў агульны духоўны набытак». В. Быкаў жа на гэта адказвае: «Што ж, як кажуць, дай Бог... Толькі я хацеў бы зазначыць, што ў культуры не трэба змагання, у культуры трэба жыць, а тут важна адпаведная дэмакратычная атмасфера, у якой павінна натуральна існаваць чалавечае грамадства. А вось тое, што ў нас звычайна робіцца ў культуры, нагадвае менавіта няспыннае змаганне. Таму многія культурныя з'явы ў нас набываюць форму кампанейшчыны і штурмаўшчыны». Нельга не прыслухацца і да такой быкаўскай высновы: «У нас жа хочуць адразу ад балалайкі перайсці да Моцарта. Такога, відаць, не бывае»...

Прызнаюся, да інтэрв'ю В. Быкаў яшчэ неаднойчы вяртаўся ў думках, чытаючы чэрвеньскія нумары часопісаў. Скажам, ягонае меркаванне пра абавязковае «змаганне» і «барацьбу» прыгадалася, калі знаёміўся з артыкулам Р. Шкрабы «З песні слова не выкінеш». Пры жаданні, у публікацыі можна знайсці і сёе-тое, што растлумачваецца абаронай «гонару мундзіра». Маўляў, мяне асмеліліся пакрытыкаваць маладзейшыя, засумняваліся ў якасці напісаных мною падручнікаў па літаратуры для сярэдняй школы і я адразу даю адлуп. Паўтараю, захацеўшы, гэта можна знайсці. Але... мне куды больш імпануе пазіцыя Р. Шкрабы. У яго няма аніякай спробы крышыць, руйнаваць усё ранейшае, імкнення пабудаваць на гэтым адмаўленні будыніну (няхай сабе і хісткую) свайго абнаўленчага светапогляду. А яшчэ звярніце ўвагу на гэтую мясціну ў артыкуле Р. Шкрабы: «крытыкуючы іншых, трэба быць гатовым да таго, што пакрытыкуюць і цябе». Сказана пра канкрэтнага аўтара, але ці не падыходзіць гэтая аксіёма да большасці з нас? Ой, якія ваяўнічыя мы, калі справа тычыцца іншых! Калі ж зачэпяць мяне, тут ужо спуску быць не можа. Спрацоўвае правіла, накшталт: што дазволена Юпітэру, не дазволена быку...

Пачаў з публіцыстыкі, крытыкі, бо гэтыя публікацыі даюць своеасаблівы зарад аптымізму. Не ўсё ў нас, аказваецца, і блага. Вядома, хацелася б, каб лепшага было болей, каб і ўзаемаадносіны між людзьмі станавіліся чысцейшымі, але ж — у рэшце рэшт — гэта залежыць ужо не ад нейкага іншага, а ад нас саміх.

У «Полымі» ўзрушыла і яшчэ адна публікацыя, звязаная з імем Міхася Стральцова. Нястомная праца ягонай душы адбывалася, хоць і спакваля, але пастаянна. Чалавек жыў, мо не да канца зразуметы іншымі, але жыў, гарэў, а не тлеў. Цяпер на адлегласці, няхай пакуль што і не такой вялікай, якая аддзяляе нас, жывых, ад яго, мёртвага, гэтае гарэнне высвечваецца, полымным агнём загадкавасці. Той загадкавасці, якая заўсёды спадарожнічае сапраўднаму таленту.

Падобная загадка Міхася Стральцова — у апавяданні В. Карамазава «Гарэла свечка ў акне», прысвечаным памяці пісьменніка і сябра. Яно — як бы яшчэ адзін раздзел да кнігі В. Карамазава «Проста ўспомніў я цябе...» Рэальнае і фантастычнае ў аповядзе перакрыжоўваецца, але апошняе не адцяняе тое, што было ў сапраўднасці, а наадварот, падае яго ў іншым, рамантычна-ўзнёслым ракурсе. Апавядальніку ўвесь час мроіцца прысутнасць М. Стральцова ў Ялце, дзе ён адпачывае (і дзе, дарэчы, той, пішучы «Загадку Багдановіча», ніколі не быў), і гэта як бы паядноўвае часавыя пласты. Разам з тым існуе паралель і іншага плана: Стральцоў — Багдановіч — Чэхаў. Нечаканы рад? Як сказаць. Бадай што — заканамерны. Лучыць іх еднасць лёсаў і еднасць талентаў.

Загадка творцы і вечная загадка чалавека... Сейбіта і разбуральніка, гуманіста і чалавеканенавісніка. Над гэтай загадкавасцю чалавецтва задумваецца цягам стагоддзяў. Задумваецца над гэтай загадкавасцю А. Каско ў вершы «Катаклізмы» (ягоная падборка — таксама ў «Полымі»). «Адны героямі былі, ішлі на крыж, на эшафот за годнасць ды за свой народ... Другія катамі былі, іх спадчына — бізун-турма... Сумніўцы — трэція былі, іх душы спапяляў агонь, іх боль спыняла куля ў скронь...»

Квінтэсенцыя твора — у заключнай страфе:

**А кім чацвёртыя былі,**
**што ўмелі толькі сеяць, жаць,**
**што спрэс — мільёнамі —**
**ляжаць?..**
**Няўжо інача не маглі?!**

Не маглі, не хацелі, баяліся? У чужую душу не зазірнеш, літаратура ж спрабуе рабіць гэта. І ў новых вершах С. Грахоўскага («Полымя») пра той трагічны час жыве роздум аб выпакутаваным і перажытым і паэтам, і народам. Адначасова адбываецца і выпроставанне лірычнага героя над абставінамі:

**З мяне смяяліся зладзеі,**
**Не злітаваўся нават Бог,**
**Сумлення толькі і надзеі**
**Ніхто ў мяне адняць не мог.**
**Жыццё як знічка праляцела,**
**А я такі, як быў спярша,**
**Бо з кожнай стратай багацела**
**Мая збалелая душа.**

Апавяданне А. Крэйдзіча («Маладосць») «Хуліган» не пазбаўлена сюжэтнай рыхласці, расцягнутасці, пэўнай зададзенасці. Але ж гэта — адна з першых публікацый маладога аўтара. А. Крэйдзіч (імя гэтае варта запомніць, ён нарадзіўся ў вёсцы Заверша Драгічынскага раёна ў 1965 годзе) даволі арыгінальна вырашае ўсё тую ж тэму чалавечай загадкавасці. Студэнт інстытута культуры Жэнік, выпадкова пазнаёміўшыся з дзяўчынай, не надта высокай думкі аб ёй, хоць яму і прыемна бавіць час з Валяй. Але, архісучасная, яна пастаянна як бы адштурхоўвае яго ад сябе. Іншая справа Марына, што засталася ў вёсцы. Напаверку ж атрымліваецца ўсё інакш — менавіта Валя гатова падтрымаць юнака ў цяжкую хвіліну. Імпануе жаданне аўтара пільней зірнуць у схovы чалавечай душы, радуе, што А. Крэйдзіч у ацэнцы паводзін сваіх герояў прытрымліваецца цвёрдых маральных арыенціраў.

У «Маладосці» важкі публіцыстычна - літаратуразнаўчы сшытак. (Праўда, сёлета часопіс чамусьці з зайздросным пастаянствам абыходзіцца без рэцэнзій). Падборка эсэ-ўспамінаў Б. Сачанкі «Маладзейшыя» — штрыхі да партрэтаў А. Сербантовіча, В. Бечыка, Я. Янішчыц, Р, Семашкевіча, І. Хадановіча якія, як вядома, у розныя гады заўчасна пайшлі з жыцця. Навідавоку аўтарская тактоўнасць у гаворцы пра тых, чые імёны і цяпер, як кажуць, на слыху, уменне зразумець талент нават у цяжкі для яго момант.

Складаныя лёсы паўстаюць у нарысе В. Зданюка «Дысбат: радавыя пераменнага саставу» і ў артыкуле А. Сачанкі «Бязбацькавічы». У «Маладосці», праўда, яны змешчаны не побач, аднак жа хіба не з такіх, абдзеленых увагай бязбацькавічаў, якія пакутуюць у нашых, як меркавалася раней, самых лепшых у свеце дзіцячых дамах, вырастаюць затым юнакі, што трапляюць у дысбаты?

Прачытаюцца, безумоўна, матэрыялы, прымеркаваныя да 100-годдзя з дня нараджэння М. Багдановіча. У «Полымі» — артыкулы-роздумы В. Зуёнка «Цвяток радзімы васілька...» і А. Клышкі «Будзь тым, каго Беларусі не стае!» Па традыцыі шмат плошчы аддае юбілейным матэрыялам часопіс «Беларуская мова і літаратура ў школе». Зрэшты, матэрыялы гэтыя, хоць і друкуюцца з нагоды юбілею, маюць не толькі юбілейны, а і навуковы характар. Маю на ўвазе публікацыі «Музей Максіма Багдановіча» А. Бяляцкага і «Вяззе» В. Бяляўскай.

У «Беларусі» ж заўсёды прываблівае дзіцячая старонка «Сонейка» (чаму б ёй не стаць штомесячнай!). Думаецца, што і «тоўстым» выданням не лішнімі былі б творы для дзяцей.

З іншых матэрыялаў знойдуць свайго чытача, думаецца, нарыс А. Астрэйкі і К. Клебана «Калгас дзеліць акцыі», артыкул Э. Іофе «Той самы Някрашэвіч...», лісты П. Сергіевіча («Полымя»); артыкулы А. Трусава «Зварот з нябыту» і І. Хозерава «Полацкая архітэктура XI — XII стагоддзяў у святле новых даследаванняў» («Маладосць»), і, канечне ж, паэтычныя старонкі часопісаў, дзе чытачы спаткаюць імёны Д. Бічэль-Загнетавай, Ю. Голуба, Н. Загорскай, Ю. Свіркі, С. Сокалава-Воюша...

**А. М.**

---

**ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ**

# Першы крок «Скарыніча»

СКАРЫНІЧ

**Да Масквы сёння пераважная большасць з нас ставіцца з аглядкай... Маўляў, ці не ва ўсіх бедах Цэнтр вінаваты. Не будзем унікаць у сутнасць гэтай, не такой простай, як на першы погляд падаецца, праблемы, паспрабуем засведчыць адваротнае: «Маскоўская зямля мае на свой лад цікавую традыцыю спрыяння беларушчыне. Згадаць хоць бы, калі трымацца толькі новага часу, пра выхад у свет «Сыгнала» Гаршчынавага ў перакладзе Ядвігіна Ш., выданне «Дзянніцы» Жылуновічам, іншых друкаў пад эгідаю Беларускага нацыянальнага камісарыята, Беларускага навукова-культурнага таварыства, асобных студэнцкіх перыёдыкаў у першай палове дваццатых гадоў («Змаганне», «Чырвоны шлях» і інш)».**

**Гэта цытата са звароту «Да чытача», якім адкрываецца першы выпуск літаратурна-навуковага гадавіка «Скарыніч» (выдавецтва «Мастацкая літаратура», укладальнік Аляксей Каўка). Выданне якраз і ставіць перад сабой задачу «карыстаць з прыязнага маскоўскага асяроддзя дзеля ўзбагачэння нацыянальнае культуры» усё лепшае. Дадамо: і тое, што рабілася раней, і тое, што робіцца сёння, як у працяг таго ж, ранейшага. Таму ў выпуску суседнічаюць матэрыялы гістарычна-даследчыцкага плана з інфармацыйна - аналітычнымі. Аб'яднаны яны ў тры раздзелы, кожны з якіх узнаўляе сам дух маскоўскага беларускага асяроддзя.**

**У раздзеле «Вячыстае святло Скарыны» — падрабязная справаздача з абмеркавання даведніка «Францыск Скарына і яго час», праведзеная па ініцыятыве Інстытута сусветнай літаратуры імя А. М. Горкага сумесна з Саветам па беларускай літаратуры пры праўленні СП СССР і Маскоўскім Таварыствам беларускай культуры імя Ф. Скарыны; Ю. Лабынцаў расказвае пра унікальны экземпляр «Кнігі Іова» Ф. Скарыны. Тут жа адказы на анкету «Францішак Скарына і адраджэнне беларускай літаратуры», падрабязны «Кнігапіс» публікацый (кніг, часопісных матэрыялаў), прысвечаных першадрукару.**

**Аднак, не адмаўляючы значэння ўсіх гэтых матэрыялаў, усё ж мушу засведчыць: асноўную нагрузку ў зборніку нясе раздзел «Гісторыя грукае ў сэрца» і частка матэрыялаў з раздзела «Служыцьме маці-Беларусі».**

**Мяркуйце самі. Ужо адзін упамінак прозвішча М. Улашчыка шмат гаворыць дасведчанаму беларусу. Тут яго аўтабіяграфічныя нататкі, а па сутнасці «дакументальная аповесць пра лёс беларускага інтэлігента ў сумна вядомых трыццатых...» А хіба так шмат ведаем мы пра Б. Эпімаха-Шыпілу?! А тут, калі ласка, новыя архіўныя матэрыялы з яго жыццяпісу. Ды і «Письмо русскому другу» А. Каўкі, датаванае яшчэ 1976—1977 гадамі. Яно ў абарону беларуса, у абарону беларускасці. Яно—яшчэ адзін напамінак: мы маем права «людзьмі звацца» ў самым шырокім значэнні гэтага слова. Нарэшце, расказ пра тое, як жылі беларусы ў Маскве ў дваццатыя гады (насычаны фактамі артыкул Я. Лецкі «Згукі дзён мінулых» і ўзнаўленне асобных з тагачасных публікацый).**

**Астатнія матэрыялы? «Скарыніч» задуманы, як гадавік Маскоўскага Таварыства беларускай культуры імя Ф. Скарыны. Зразумелае жаданне сяброў яго як мага паўней расказаць пра сваю дзейнасць (паўтаруся, па-сапраўднаму адраджэнцкую, вартую ўхвалы). Толькі не будзем забываць, што перад намі КНІГА. У цвёрдай вокладцы, з густам афармленая. Няўжо так патрэбны ў ёй віншаванні з нагоды ўстаноўчай канферэнцыі таварыства? Хіба нельга было карацей падаць паведамленне пра адно з пасяджэнняў? Тэма надзіва надзённая? Безумоўна — «Беларуская мова: Адраджэнне». Ды чытачу прапануецца зусім не чарговы нумар газеты. Тое ж тычыцца і падборкі «Галасы студэнтаў».**

**А. АН-ЕВІЧ.**

Алег САЛТУК



## Наш век

Наш век, як ты яго ні назаві,
Якое ні прыдумай яму слова,
Трымаецца зусім не на любві
І ўсё ў ім да роспачы часова.

Па ім прайшла страшэнная вайна
І культ яго страшней вайны знявечыў.
І нам, яго надломленым сынам,
Цяжар нечалавечы лёг на плечы.

Мы боль нясем на стомленых плячах
І нашы душы прыкрасцю пакрыты
Касцямі ў камунізм уклалі шлях,
А сталі ля разбітага карыта.

Чарнобыль нас дашчэнту даканаў.
Яшчэ не гэта ўспомніць нам прырода!..
Вышэй Кітайскай вырасла сцяна
Паміж уладарамі і народам.

Мне покуль — сорак пятая вясна,
Здавалася б, і здзейсніць нешта можна,
Ды вось стаіць нябачная сцяна
І на маёй любві непераможна.

●

Такуем, як цецерукі —
Забалбаталі ўсё на свеце.
А каля высахлай ракі
З пяском гуляе вольны вецер.

Ён чорны сёння вецер той,
Ён напалам з атрутным дымам...
Жывы яшчэ, хоць пад зямлёй
Рэактар, які стаў на дыбкі.

І стануць дыбам валасы,
Калі ўміраць ад жаху будзем...
Знікаюць рэкі і лясы,
І на хаду кладуцца людзі.

## Па грыбы

Акрайчык хлеба,
Лёгкі кош,
Пад пахі лахі — і ў дуброву
Пабегла сцежка басаног
За ціхім шчасцем грыбніковым.

Не выесць вочы мне раса
І доля мне не будзе злою;
Сябрук надоечы казаў,
Што там грыбоў — касі касою.

Іду, ды не — бягом бягу...
А вось і першыя лісічкі.
Я іх на потым зберагу —
Аздобяць кошык, быццам знічкі.

А тут — і бацька-баравік
І падасінавікаў сонцы.
Ды прашаптаў мне лесавік,
Што ўсе грыбы абсыпаў стронцый.

## Ён

А ён застаўся на вайне,
На цэлы век на ёй застаўся.
Ён быў равеснікам бы мне,
І жыў бы, плакаў і смяяўся.

Ды ён застаўся на вайне —
Такая выпала вось доля.
І фотаздымка на сцяне
Яго не будзе аніколі.

Бо ён застаўся на вайне.
Ён сваю маці не сустрэне
І ў сваёй роднай старане
Прад ёй не стане на калені.

Бо ён застаўся на вайне.
Там засталося і каханне.
Жаночых вуснаў не кране
Яго гарачае дыханне.

Бо ён застаўся на вайне...
А тут у нас такія вёсны!
У небе, аж на самым дне,
Маладзічок плыве без вёслаў.

Ды ён застаўся на вайне,
Хлапчук, які не нарадзіўся
У сорак шостым.
Толькі ў сне
Сягоння мне ён і прысніўся.

БО ЁН ЗАСТАЎСЯ НА ВАЙНЕ...

## Вера

Перакшчуся на абразы —
Вера хай не пакіне,
Ды ад чыстай слязы
Пасвятлее ў хаціне.

Добрай верай жыву
У зямлю, у нябёсы,
У агонь і траву,
У світальныя росы.

Скроні мне апячэ
Хутка сумная шэрань,
А я веру яшчэ
І жыву гэтай верай

У радню, дабрыню,
У таемнага Бога...
Божа, можа, маню!
Не судзі ж мяне строга.

## Цішыня

Ад цішыні даўно адвык,
Ды вусціш выспела такая,
Што чую — чорны баравік
Праз мох бялюткі прарастае.

Я чую, як мураш ідзе,
Як звоніць серабром рачулка
І як на повадзе вядзе
Лясун патомства на прагулку.

Я чую цішу,
Ці-шы-ню,
Я свет спрадвечны адкрываю
І тут душу адаграваю
Ля верасовага агню.

## Начлег

Дзяцінства коні!
Ноч каля кастра
Здавалася задумлівай сяброўкай.
Ляцела, тлела кволая іскра
І вецер з туманоў круціў вяроўкі.

Патроху засыналі хлапчукі.
На конскіх шыях глухлі балабоўкі.
Бацькоўскія хавалі армякі
Бялявыя і русыя галоўкі.

А я не мог ніяк тады заснуць.
Я слухаў неба, поплаў і азерца
І з вуснаў дзядзькі тую даўніну,
Што прымушала гулка біцца сэрца.

Я быў і на кані, і пад канём,
Прымаў, што лёсам мне наканавана.
І дзякуй Богу — тое хлапчанё
Жыве ўва мне адчайна-апантана.

## Падарунак

Любові АЛЯКСЕЕВАЙ

Маленькі крыжык ты мне падарыла,
Асвенчаны і небам, і табой.
І срэбнае распяцце засвяціла
Таемнай сілай на душы маёй.

Параненая зайздрасцю і злосцю,
Яна ўваскрэсла раптам, аджыла,
Я глянуў на яго і мне здалося,
Што ты са мной усё жыццё была.

І толькі я, аслеплены другімі
І сам сабой, цябе не заўважаў.
Свяціся ж над пакутамі маімі,
Мой боль, мой паратунак і мой жаль.



Фота А. КЛЕШЧУКА.

САМАЛЁТ ляцеў у начной цемры. Цемра была густая, вязкая, яна не давала самалёту ляцець хутка. Здавалася, ён цяжка плыў, як у чорным мазуце. Гушчыня цемры глушыла гул матора, і ў салоне было ціха, ціха. І ніякай прасветлінкі ні на небе ўверсе, ні на зямлі ўнізе, скрозь густая цемра.

Іван Альбінавіч Карабанаў ляцеў у гэтым самалёце з жонкай і дачкой першакласніцай. Акрамя іх, у салоне на дзвюх бакавых прадольных лаўках сядзелі яшчэ дзевяць пасажыраў. Ліхтары са столі кідалі ў салон дрогкае святло, і нерухомыя, застылыя ў дрымоце твары людзей здаваліся Івану Альбінавічу мёртвымі. Быццам то ляцелі людзі не жывыя, а застылыя ў сядзячых паставах мерцвякі. Мёртвай здавалася яму і жонка Паліна, худая, разы ў два лягчэйшая за яго. Перапёлачкай дохлай называў ён жонку ў час сварак за гэту яе худзізну. Сам ён быў мажны таўсцяк з рэльефным жыватом і двайным чырвоным падбародкам, за які яго калегі-службоўцы празвалі Чэрчылем.

Вярталіся яны з паўднёвага курорта, дзе адпачывалі два канікулярныя летнія месяцы. Іван Альбінавіч на курорце не пахудзеў, як меў намер, а пацяжэў кілаграмаў на пяць — вельмі ж там добра пілося і елася. Паліна, нягледзячы на ўсе намаганні і старанні патаўсцець і пацяжэць, такой худой і засталася, толькі ўся загарэла амаль да негрыцянскай чарнаты, не пакінула на целе нават маленькага белага лапічка. Дачка Тэрэза падрасла і добра адпачыла. Праз тыдзень Тэрэза пойдзе ў школу ў першы клас, Паліна будзе ў той жа школе вучыць дзяцей спевам і музыцы, а дацэнта Карабанава чакае універсітэцкая кафедра марксізму-ленінізму і лекцыі студэнтам вось ужо колькі год па адным і тым жа напісаным ім некалі канспекце. Таму ўсе трое паспелі ўжо і засяродзіцца на сваіх абавязках, якія ім прыйдзецца выконваць праз некалькі дзён. Іван Альбінавіч жадаў хутчэй дарвацца да працы, яму падабалася яго навука. У Паліны наадварот псаваўся настрой, калі думала пра сваіх бяздарных і тупых да музыкі, з казлінымі галасамі, дзетак, якіх яна павінна вучыць азам музыкі. Тэрэзе і хацелася хутчэй стаць вучаніцай, і ў той жа час згодна была б прадоўжыць лета яшчэ на столькі і паўстолькі.

Ляцець самалёту было яшчэ больш за гадзіну, і ляцеў ён гэтак жа марудна, цяжка і на здзіўленне па-ранейшаму бязгучна.

Іван Альбінавіч ужо ў каторы раз зноў зірнуў у ілюмінатар і зноў нічога не ўбачыў — ні агеньчыка, ні якой-небудзь светлай прасінкі. Цемра, як дзёгаць, заляпіла шкло ілюмінатара.

«Мы ж не ляцім,—падумалася яму,— мы стаім на месцы. Матор жа не працуе».

Падумаў так, але не спалохаўся, бо бачыў, што ніхто з пасажыраў не адчуваў гэтага, не трывожыўся, усе спалі ці глыбока драмалі.

Святло ў салоне яшчэ як бы гусцей пасінела, і твары пасажыраў, у тым ліку і нерухомых жонкі і дачкі, таксама больш пасінелі.

«Усе спяць, адзін я не сплю. А можа, і лётчыкі заснулі? То куды ж мы ляцім?» Занепакоіўся на гэты раз Іван Альбінавіч, трывога захаладзіла яго грудзі. Спытаць бы ў каго, што адбываецца з самалётам, ды няма ў каго, усе спяць.

Спала глыбока, бестурботна і жонка, што пачало раздражняць Івана Альбінавіча. Спіць сабе і хоць бы што ёй. Як жа, адпачыла, нагулялася, пакруціла хвастом, павыпендрывалася, курортніца... Не можа быць, каб яе выпендрыванні былі нявіннымі забавамі. Не можа быць.

Рэўнасць абпякла яму сэрца. Узнік адразу перад вачамі грузін Вахтанг, з чорнымі вусікамі і жаночым чырвоным ротам. Амаль месяц круціўся той грузін каля яе, а яна ажно шалела ад радасці ў яго кампаніі.

Ён штурхнуў жонку ў плячо, хацеў распытаць пра Вахтанга.

Ад штуршка Палініна галава бяссільна, як мёртвая, матнулася, але вочы яе адплюшчыліся, губы слаба ўздрыгнуўшы, прашапталі:

— Я сплю, не чапай.

Тады ён штурхнуў і Тэрэзу, і тая, гэтак жа, не расплюшчваючы вачэй, злосна адказала праз сон:

цэнтруе самыя традыцыйныя і пазнавальныя рысы беларускай бабы.

**Амплуа Зінаіды Нагорнай — блізкае да таго, што іграе М. Тарасенка, але без жорсткасці, без рэзкасцей у характары. Гэта больш мяккі, добры і хітраваты народны характар. Абедзве актрысы нязменна выступаюць у пары з Лазароўскім і Коласам у ролях жонак, сясцёр, сваячак. Тут таксама ёсць свае традыцыйныя камічныя трукі і ўстойлівыя ўзаемаадносіны, якія пераходзяць з спектакля ў спектакль.**

Кожная п'еса — геніяльнае тварэнне класіка або другасортная літаратура, трапляе на моцны, пастаянны ансамбль гэтых акцёраў. Сцэнічны вобраз кожнага з іх напалову зроблены яшчэ да таго, як пачалі ставіць новы спектакль. Кожная п'еса можа быць успрынята, як тэма для новага варыянта аднаго спектакля, бо ў гэтым тэатры сэнс прадстаўлення не ў сюжэце, не ў падтэкce, не ў тых падзеях, якія перажываюць персанажы, а ў «спектаклі» акцёра з публікай і партнёрамі, у рэпліках акцёраў... Гэта тэатр, у якім арганічна няма і не можа быць «чацвёртай сцяны». Тут кантакт з гледачом — панібрацкі, прамы і пастаянны—усталёўваецца проста і хутка (мара многіх нашых тэатраў). Таму спектаклі «Верасня» павольныя па звычайных мерках, амаль статычныя. Сцэнічныя прыёмы, мізансцэны (прычытанне М. Тарасенкі, ваяўнічыя пеўні і інш.) часта паўтараюцца, а спектаклі трымаюцца ў рэпертуары дзесяцігоддзямі. Але побач з пастаяннымі рэпрызамі ўзнікаюць імправізацыйныя, і спектакль застаецца жывым. І гэта таксама тыповыя рысы сапраўды народнага традыцыйнага мастацтва. «Верасень» — тэатр пераважна камедыйны, «пакуты», калі яны не прыкрыты іроніяй, або сыграны без неабходнай умоўнасці жанру — кепска атрымліваюцца, між іншым, гэтак жа, як і патэтыка. Дэкарацыі ўяўляюць сабой, як правіла, лёгкія шырмы з ласкутнай аплікацыяй або самыя простыя выгарадкі. Скажам, дзіцячы спектакль «Тры парасяці» будуецца, як гульня з кубікамі. На іх намаляваны літары, якія дзеці з энтузіязмам адгадваюць, з іх узводзяць свае дамкі парасяты.

ТЭАТР У МАЗЫРЫ існуе ўжо трыццаць гадоў. Большую частку — на правах аматарскага калектыву. Год назад «Верасень» атрымаў статус прафесійнага тэатра з дзяржаўнай датацыяй. Рашэнне, безумоўна, правільнае, бо прафесіяналізм тэатра не выклікае сумненняў, а яго лепшыя акцёры ўпрыгожылі б любую нацыянальную сцэну, але, магчыма, запозненае. Энтузіязму і запалу ў многіх паменела: жыццё склалася іначай і пераход у прафесійны статус з маленькай зарплатай і бясконцымі раз'ездамі аказаўся занадта цяжкім. Таму многіх сваіх акцёраў тэатр страціў.

Для «Верасня» патрэбна зусім асаблівая рэжысура, з элементамі трэнінгу і педагогікі для маладых і асцярожнай аправы для вядучых акцёраў, з разуменнем свайго стылю існавання тэатра, яго асаблівай прыроды. Калі рэжысёр звычайнага тэатра спрабуе ставіць тут стандартны спектакль, атрымліваецца тое, што адбылося з «Прымакамі» Купалы ў пастаноўцы С. Клименкі (спектакль, які рэжысёр перанёс на мазырскую сцэну з Магілёўскага абласнога тэатра драмы і камедыі імя В. Дуніна-Марцінкевіча) — стылізацыя пад народнае мастацтва у тэатры, які па сваёй прыродзе, па сутнасці, з'яўляецца сапраўды народным. Сапраўдны лубок ператвараецца ў пошлы сувенірчык. Тэатральныя персанажы губляюць кантакт з гледачом — яны «адпрэчаны» часам і стылізацыяй. І тады адзіным сапраўдным імгненнем робіцца простая песня, якую спяваюць «жыўцом» персанажы, ды як спяваюць!..

Рэпертуар тэатра, праўда, не выдае на адметнасць ці разнастайнасць: Купала, Макаёнак, Марчук. Хацелася пажадаць акцёрам прыгледзецца да рэпертуару Галубка, у прыватнасці, да п'ес Ф. Аляхновіча, М. Чарота, а можа, Н. Сямёнавай, М. Куліша, Эдуарда дэ Філіпа...

І нечакана, і дзіўна было ўбачыць на афішы мазырскага тэатра п'есу Ніны Садур, з іменем якой звязваюцца самыя авангардныя ідэі ў сучасным савецкім тэатры. «Ехай» Н. Садур паставіў студэнт БДТМІ С. Паляшчанкоў. І што ж? Драматургія абсурду, якая кепска даецца сучаснай сцэне, аказалася дарэчнай у гэтым тэатры. Парадаксальнасць мыслення ультрасучаснага аўтара блізкая традыцыйнаму народнаму мысленню. Як нечакана пацвердзілася думка аб тым, што абсурд і традыцыйнае народнае мастацтва судакранаюцца адзін з адным не фармальна! «Ехай» — адзін з лепшых спектакляў тэатра.

У ім расказваецца пра тое, як спыняецца цягнік і ягоны машыніст спатыкаецца з мужыком, што вылягаецца на рэйках. Адзін — загадкавы, летуценны самагубца, які ўвасабляе загнаны, жабрацкі, лагерны, але не згубіўшы годнасці народ, другі — выканаўца, рычаг вялікай дзяржаўнай машыны, ён і размаўляе нібыта іншаю мовай.

**Дэкарацыі П. Захарэнка — поліэтыленавыя шырмы з фантастычнымі малюнкамі вугалем, вёдры на матузах. За шлагбаумам — жалезны ложак пад нумарам (як добра, што не рэйкі, а менавіта намерны ложак, што адразу стварае аб'ёмны вобраз). Эфектны пачатак дзеяння з песняй «Наш паровоз вперед лети» і дырыжорам-машыністам задае высокі ўзровень абагульнення ў спектаклі: гаворка ідзе пра краіну, якая спатыкнулася на ўласныя канцлагеры.**

**Машыніст — М. Кліменка ў незвычайнай сітуацыі спрабуе растлумачыць ходкай логікай, ходкімі словамі тое, што адбываецца з ім і з мужыком. Ен гаворыць, гаворыць, гаворыць... А мужык М. Коласа толькі слухае, гмыкае, прамаўляе літаральна некалькі слоў — ды з якой інтанацыяй і пластычным падтэкстам! — ён літаральна «іграе» маналог партнёра. Цэлы «тэкст» сказаны тут акцёрам — тым, як звыкла журботна ляжыць ён на ложку і перабірае клавішы гармоніка, як ён умела б'е машыніста, але без злосці, а потым, здзіўляючыся, дае пагрэць яму свае рукі. За гэтым мужыком устае палова лагернай краіны, разумнай, цынічнай, іранічнай, маўклівай і смуткуючай па дабрыні і чалавечнасці.**

**У другой частцы спектакля з'яўляецца некаторая сентыментальнасць у адносінах мужыка і старой, якая кліча яго да сябе ў дом. Губляецца нечаканасць рэакцый персанажаў і ўспрымання глядзельнай залы, парадаксальнасць паваротау думкі. Але ў цэлым спектакль пакідае моцнае ўражанне. Маладому рэжысёру ўдалося раскрыць нечаканыя магчымасці гэтага калектыву, злучыўшы традыцыйную эстэтыку і парадоксы сучаснага драматургічнага мыслення.**

З ЦЯЖКАСЦЮ ЎЯЎЛЯЮ, як прыйдзе ў гэты тэатр «нармальны» рэжысёр «нармальнага» тэатра, і «Верасень» стане жыць як стандартная тэатральная ўстанова. (І тады... у нас будзе яшчэ адзін гарадскі тэатр «мясцовага значэння»?).

А памагчы акцёрам можна і трэба. З якой горыччу расказваюць людзі пра зацягнутае змаганне з Міністэрствам культуры і Саюзам тэатральных дзеячаў пра званне для Андрэя Лазароўскага, які ўсё жыццё, з 15 гадоў іграе ў тэатры, на плячах якога і сёння — амаль увесь рэпертуар. Кажуць — ён «выйшаў з узросту», як быццам талент залежыць ад «камсамольскага ўзросту». А цудоўная актрыса Мальвіна Тарасенка? А Зінаіда Нагорная? І, вядома, нязменны кіраўнік — душа гэтага тэатра — Міхаіл Колас? Няўжо таксама не ўпісваюцца ў «палажэнні і інструкцыі»? А ў якім старым фургоне ездзяць акцёры: там і сесці няма дзе, і дэкарацыі і касцюмы скласці няма дзе...

— Ну што ж, мастацтва вымагае ахвяр, — сказала адна з старэйшых актрыс Вера Казлоўская, выходзячы каля гадзіны ночы пасля чарговае вандроўкі.

**Таццяна РАТАБЫЛЬСКАЯ.**



# «ПРЫЦЯГНЕННЕ» НАРОДАЎ— НЕ ВЫПАДКОВАСЦЬ...»

**Закончыўся 53-і канцэртны сезон Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Ён быў адзначаны многімі яркімі падзеямі: фестывалі, адметныя канцэртныя праграмы беларускіх выканаўцаў, сустрэчы з цудоўнымі савецкімі музыкантамі і замежнымі гастралёрамі.**

**Сёлетні сезон, відаць, увойдзе ў гісторыю музычнага жыцця рэспублікі дзякуючы і такой падзеі: упершыню за доўгія гады вядучыя філарманічныя калектывы атрымалі магчымасць выязджаць з канцэртамі за мяжу.**

**Адметны прыклад — выкананне Акадэмічным сімфанічным аркестрам БССР і Акадэмічнай харавой капэлай імя Р. Шырмы твора «Чырвоная кніга з Мантсерат» іспанскага кампазітара Ксаўера Бенгерэла на фестывалі ў нямецкім горадзе Шпаеры, потым у Ленінградзе і, нарэшце, у Мінску, дзе да музыкантаў далучыліся артысты ансамбля пантамімы «Рух». (Яго рэжысёр У. Колесаў прапанаваў пластычны «кантрапункт» гэтага вакальна-сімфанічнага твора.) Ксаўер Бенгерэл са сваёй чароўнай жонкай-імпрэсарыа Сільвіяй прысутнічаў на мінскай прэм'еры, і нам давялося пагутарыць.**



Дырыжор Л. Крэмер, салістка Н. Руднева, мастацкі кіраўнік Акадэмічнай капэлы БССР Л. Яфімава, кампазітар К. Бенгерэл пасля прэм'еры.

**— Сеньёр Бенгерэл, я рада вітаць вас на беларускай зямлі. І, паколькі гэта ваша першая сустрэча з чытачамі «ЛіМа», думаю, ім будзе цікава даведацца, як складваўся ваш творчы шлях.**

— Нарадзіўся я ў Барселоне, але музыкай пачаў займацца ў Сант'яга-дэ-Чылі, куды бацькі эмігравалі з ахопленай грамадзянскай вайной Іспаніі. Мне тады споўнілася 9 гадоў. А ў Барселону давялося вярнуцца і прадоўжыць музычную адукацыю толькі ў 54-м. Мяне можна назваць кампазітарам-самавукам: мастацтва стварэння музыкі я спасцігаў саматугам.

**— Мне здаецца, што разнастайнасць і інтэрнацыяналізм вашых музычных сімпатый суадносіцца са шматстайнасцю ўласных жыццёвых уражанняў. Іспанія, Чылі...**

— У 60—70-х гадах я шмат падарожнічаў па Германіі. Там мне пашанцавала пазнаёміцца не толькі з таленавітымі музыкантамі, а і выдаўцамі, якія зацікавіліся маімі творамі. За 15 гадоў у Германіі было апублікавана звыш 40 маіх партытур, і выданні раскупляліся вельмі добра. Аднак пазней я вырашыў не імкнуцца абавязкова публікаваць сваю музыку, бо значная частка ганарараў ішла выдаўцам. Больш часу ўдзяліў дырыжорскай дзейнасці...

**— Сеньёр Бенгерэл, ці пішаце вы на заказ, ці ўсе вашы творы нараджаюцца толькі пад уплывам унутранага творчага імпульсу?**

— Ахвотна бяруся за заказы (дарэчы, яны і аплачваюцца лепш), асабліва прапанаваныя салiднымі музычнымі калектывамі, выканаўцамі. Менавіта так былі напісаны творы для Берліна, Бадэн-Бадэна, Мадрыда, іншых гарадоў. Адзін з самых вялікіх і цікавых нядаўніх заказаў — «Рэквіем» памяці вялікага каталонскага паэта Сальвадора Эспрыу. Прэм'ера «Рэквіема» адбылася летась у Коста Брава — гэта курорт на паўночным узбярэжжы Міжземнага мора. Канцэрт праходзіў у невялікай старадаўняй царкве і трансліраваўся па тэлебачанні на ўсю Іспанію.

«Чырвоная кніга з Мантсерат» — таксама заказ, на гэты раз Барселонскай оперы, дзе і адбылася прэм'ера. Гэты твор заснаваны на песнях і танцах XIV стагоддзя, сабраных у знакамітай каталонскай рукапіснай кнізе, якая захоўваецца ў Мантсерацкім манастыры. У 1812 годзе, у час вайны з Напалеонам, кніга здабыла другое нараджэнне: яна была цудам выратавана з агню. А сваю цяперашнюю назву — «Чырвоная кніга» — рукапіс атрымаў пазней, дзякуючы новаму пераплёту з чырвонага аксаміту. Гэтым творам я спрабаваў пракласці мост паміж мінулым і сучаснасцю, перадаць пачуцці і думкі, увасобленыя ў старадаўніх мелодыях, мовай сучаснай музыкі. Гэта не першая мая спроба зазірнуць у далёкае мінулае. Думаю, сёння еўрапейская музыка перажывае пэўны крызіс. Ці не здаецца вам, што занадта бурнае яе развіццё ў папярэднія дзесяцігоддзі прывяло да нейкага адчування тупіка? Вельмі ўжо многа плыняў, павеваў, тэндэнцый... А галоўнае — згубілася мелодыя! І, паколькі я палічыў, што наўрад ці здолею стварыць мелодыі, якія кампенсуюць гэтую страту, то вырашыў іх «пазычыць» у XIV стагоддзя.

**— Партытура «Чырвонай кнігі» разышлася па розных краінах. І вось — прэм'ера ў зале Беларускай філармоніі. У гэтым манументальным музычна-сцэнічным дзеянні ўдзельнічаюць два хоры, сімфанічны аркестр, салісты і балетная (ці пантамімічная) група. Вядомыя біблейскія матывы складаюць яго сюжэтную канву. Твор гэты, досыць незвычайны і нязвыклы для нашага слухача, здзіўляе сваімі маштабамі і кантрастамі выяўленчых сродкаў. Суровая архаіка старажытных аднагалосных напеваў змяняецца найскладанай поліфанічнай вяззю харавых сцэн; прастадушныя песенныя інтанацыі пагружаюцца ў гукавую атмасферу сучаснай, вострa дысанантнай музычнай мовы; празрыстыя, «астральныя» акорды дзіцячага хору адцяняюць поўныя драматычнай экспрэсіі арыі салістаў. І над усім гэтым уладарыць усемагутная магія фарбаў і рытмаў. Ва ўсякім разе, у мяне менавіта такое адчуванне выклікалі насычанасць і яркасць тэмбравай палітры і неўтаймоўная стыхія самых разнастайных рытмічных малюнкаў.**

**Канечне, падрыхтоўка такога складанага і нетрадыцыйнага твора вымагала ад выканаўцаў самаадданасці, і, магчыма, не ўсё задуманае ім удалося ажыццявіць у поўнай меры. Тым не менш шматлікіх аматараў музыкі прывабіла афіша незвычайнай прэм'еры, якую прадставілі Акадэмічны сімфанічны аркестр БССР, Акадэмічная харавая капэла імя Р. Шырмы, ансамбль пантамімы «Рух», салістка беларускай оперы Н. Руднева і вядомы нямецкі дырыжор Л. Крэмер, дзякуючы мастацтву якога і ажыццявілася гэтае музычнае прадстаўленне...**

**— Сеньёр Бенгерэл, а якое ўражанне беларускія выканаўцы зрабілі на вас, аўтара?**

— Вельмі спадабаліся! Гэта — адна з лепшых інтэрпрэтацый маёй музыкі. Паверце, такія словы — не проста доўг ветлівасці. Мяне асабліва кранула, з якім густам і тактоўнасцю музыканты і спевакі выконвалі мой твор, што магчыма толькі пры глыбокім пранікненні ў мастацкую задуму, — гэта прыносіць аўтару самае вялікае задавальненне. Я шчаслівы, што беларускія артысты паедуць у жніўні ў Іспанію і, у ліку многіх канцэртаў, двойчы будуць выконваць «Чырвоную кнігу» ў Мантсерацкім манастыры. Я думаю, што ўзаемнае «прыцягненне» нашых народаў не выпадковасць: мне здаецца, што ў нас аднолькавае ўспрыманне наваколля і мы ў нечым падобныя ў музычнай перадачы гэтага ўспрымання; і вы, і мы адносімся да ліку нацый тэмпераментных, страсных. І хоць для нас, іспанцаў, Расія, Белая Русь — сінонімы холаду, я ўпэўнены, што сэрца вашага народа падобнае да сонца! Гэтымі словамі я і хацеў бы закончыць нашу гутарку.

**— Дзякуй за інтэрв'ю. Мы будзем спадзявацца, што цяперашнія і будучыя гастролі нашых калектываў у Іспаніі і іншых краінах, супрацоўніцтва з замежнымі музыкантамі, абмен праграмамі і выканаўцамі, — усё гэта будзе яшчэ адным крокам на шляху вяртання беларускага мастацтва ва ўлонне еўрапейскай культуры, паўнапраўнай часткай якой яно некалі было.**

**Вольга САВІЦКАЯ.**
Фота А. КАЛЯДЫ.

# НАША ВЕРА

## Англічанка з беларускай духоўнасцю

**Усяго некалькі дзён пабыла ў Мінску англійская паэтка, журналістка і перакладчыца беларускай паэзіі на англійскую мову Вера Рыч. Але за гэты час паспела наведаць таварыства «Бацькаўшчына», зняцца для тэлеперадачы, сустрэцца са студэнцкай дабрачыннай арганізацыяй і пабываць у гасцях у студэнтаў філалагічнага факультэта БДУ імя У. І. Леніна.**

«Дзіа міс Рыч...» — зашаптала я, і быццам у бездань паляцелі словы майго перакладу на англійскую мову. Хацелася дакладна данесці, не разліць захаплення і цеплыні залы, што не ў словах нават, а ў постацях, руках і вачах. Але чую вокліч Веры: «Не, не трэба, я ўсё разумею — беларускую мову ведаю вухам. А можа, гэта і лепш, калі жанчына толькі разумее, размаўляць ёй і неабазязкова!»

Вось дык так! Ад Верынага жарту маленькая зала, дзе адбывалася пасяджэнне «Бацькаўшчыны», заблішчала ўсмешкамі, як дыханне пранеслася: «Свая... Наша...»

Вера Рыч — англійская «беларуска» чыста брытанскай крыві. Пра гэта сведчыць старажытная радаслоўная яшчэ з дванаццатага стагоддзя. Але ў гэта зусім не верыцца, калі слухаеш яе ўсхваляваную гутарку аб Чарнобылі, бачыш, як пранікнёна слухае беларускія вершы, расказвае аб жыцці беларусаў Англіі, з якімі вось ужо колькі год жыве аднор сям'ёй.

Святар Лонданскай каталіцкай царквы, якую наведала Вера, аднойчы вырашыў звадзіць сваіх вернікаў на экскурсію ў іншую каталіцкую канфесію. Ёю аказалася беларуская уніяцкая святыня. Для ўсіх Верыных спадарожнікаў гэты паход стаўся проста цікавым здарэннем. Вера ж... духоўна засталася тут наста́ла.

І вось вынік: шматлікія пераклады беларускай паэзіі на англійскую мову, лекцыі па славянскіх літаратурах у Бірмінгемскім універсітэце, падрабязныя каментарыі да кніжак вершаў, з якіх паўстаюць творчыя партрэты Бядулі, Багдановіча, Гаруна. А галоўнае — самі вершы. Вераю створана анталогія беларускай паэзіі ў перакладзе на англійскую мову ад Паўлюка Багрыма да Анатоля Вярцінскага і Алеся Звонака.

Пасля сустрэчы і знаёмства з сябрамі «Бацькаўшчыны», дзе мне давялося быць перакладчыцай, я запрасіла Веру ў госці да студэнтаў філфака.

У аўдыторыю, што даўно чакала нас, мы зайшлі спяшаючыся і не вельмі ўрачыста. Вера — як каралева, зусім не па-каралеўску загружаная шматлікімі падарункамі, я — як паж, які замест шлейфа нясе букеты кветак: перадыхнуць, або пакінуць кнігі, часопісы, плакаты, якія спяшаліся падарыць усцешаныя сустрэчай пісьменнікі, мастакі, тэлевізійшчыкі, проста не было часу. На сустрэчу да нас Вера прыехала адразу пасля запісу для тэле.

Здаецца, Вера не расказвае аб сваёй паэзіі: яна проста дзеліцца з намі сваёю нястрымна трапяткою, шчодрай на фарбы і надзвычай багатай натурай. Нездарма яе прозвішча па-англійску значыць «багатая».

На мове Шэкспіра гэтак жа першародна звініць Купала, пяе Бядуля, струменіць Багдановіч, бо пераклад для Веры не проста перадача думкі, ідэі, слоўнага зместу верша, а паглыбленае пранікненне ў ягоную форму і зліццё з жывым целам яго мелодыкі. Калі форма і была калі-небудзь вопраткай верша, то яна, на думку Веры, так зраслася са зместавым сэнсам, што амаль немагчыма разабраць, дзе тут «душа», а дзе «цела». Рытміка, гучанне, унутраная структура верша і складаюць яго паэтычную сутнасць, робяць паэзіяй, таму, безумоўна, не могуць не мець самастойнага значэння. «Вось я і лаўлю верш вухам, чапляю быццам вудай, выцягваю ягоную мелодыю і, толькі калі выразна адчую яе, пачынаю «апранаць» верш словамі,— разважае перакладчыца.— Прыслухайся прагным вухам, смела заходзь у верш, як у госці да старога сябра,— і ён раскрые перад табой свае таямніцы».

Вось як гэта адбылося з вершам «Завіруха» Алеся Гаруна: «Нешта зачароўвала і адначасова збівала мяне са звычайнага шляху ўспрымання верша ў гэтых радках:

**Завіруха скача ноччу,**
**Патарочай плача, вые;**
**Пухавыя сыпе ў вочы**
**Снегавінкі мне, рагоча.**

Я спявала яго, цалкам зачараваная, і раптам дайшло — па-

# «Любіў бязмер свой край пакутны...»

## Лёс і творчасць Лявона Гмырака

Што ведаем мы сёння пра Лявона Гмырака, аднаго з самых яркіх публіцыстаў «Нашай Нівы»? Не больш, чым сказана пра яго ў кароткай біяграфічнай даведцы «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі». А між тым, сёлетняй вясной споўнілася сто гадоў з дня яго нараджэння. Яшчэ адзін журботны юбілей беларускай літаратуры!

Упершыню «запісаў» яго ў нацыянальны мартыралог Максім Гарэцкі ў «Гісторыі беларускай літаратуры» (1920). Усяго некалькі радкоў: «Гмырак Лявон (М. Бабровіч)— малады, надта здольны нашаніўскі публіцыст. Пісаў і белетрыстыку (Б. Заяц). Быў родам з Віленшчыны (двор Пархвенава Вілейскага павету), забіты на вайне пад Коўнаю 30 чэрвеня 1915 года» (13 ліпеня 1915 года па новаму стылю).

У часопісе «Рунь» (9. 05. 1920) змешчана кароткае слова пра пісьменніка, напісанае, здаецца, З. Бядулем: «Ён родам з-пад Буцлава Вілейскага павету... У сваіх творах заўсёды адстойваў правы беларускага селяніна. Ён быў вельмі шчыры беларус і вялікі ідэаліст у жыцці».

Крыху пазней Яфім Карскі («Белорусы». Т. III. Выпуск 3. Художественная литература на народном языке. Петроград, 1922) паведаміў у раздзеле «Матэрыялы для слоўніка іншых беларускіх пісьменнікаў апошняга часу»: «Заяц Б. Лявон Гмырак. Абодва псеўданімы Мечыслава Бабровіча... Пісаў апавяданні ў «Нашай Ніве»; пісаў і крытычныя артыкулы пра беларускіх пісьменнікаў...

Біяграфічныя звесткі пра яго — у «Беларусі», 1920, № 145».

Адшукаць гэты нумар нядаўна яшчэ «забароненай» у нас беларускай газеты аказалася не лёгка. У кнігасховішчах і архівах Беларусі чамусьці якраз яго няма. Здаецца, ці не адзіны экземпляр гэтага выпуску «Беларусі» захаваўся у Фундаментальнай бібліятэцы Акадэміі навук Літоўскай рэспублікі. Копію адпаведнай старонкі дастаў мне Аляксей Каўка, за што — шчыры дзякуй нашаму калегу. Там, аказваецца, надрукаваны малавядомы артыкул Максіма Гарэцкага «Лявон Гмырак (1891—1915)».

«Нарадзіўся ён,— паведамляе М. Гарэцкі,— 6 красавіка (па ст. стылю. — **У. К.**) 1891 году ў фальварку Пархвенава Вялейскага павету Віленскай губерні. Бацька яго служыў ляснічым у паноў Слатвінскіх. Матка яго — полька з Варшавы. Пад яе ўплывам рос Гмырак і змалку быў вельмі рэлігійны. На адзінаццатым годзе жыцця паступіў ён у 1-ю віленскую гімназію. Спачатку вучыўся дужа добра і затым быў пераведзены ў бясплатны пансіён. Надта многа чытаў, асабліва па-польску; галава яго была забіта героямі Сянкевіча, і ён нават рабіў тады дзіцячую спробу пісаць аповесць — па-польску і з польскай гісторыі. З прыходам 1905-га году чад польскага патрыятызму ў яго значна слабее; хлопца захопліваюць ідэі сацыялізму, ён заводзіць бібліятэчку з забароненых кніжак, пішыць у вучнёўскі часопіс. Калі ж рэвалюцыя была знішчана і царскі ўрад не даравaў нават дзецям, на Гмырака таксама нехта данёс, да яго прыйшлі з рэвізіяй, знайшлі забароненыя кніжкі і павялі ў турму. Дзякуючы малалецтву, суд зменшыў кару да 6 месяцаў астрогу, якія Лявон і адседзеў у Вільні. Маці яго ў гэты час захварэла на сухоты.

Выйшаўшы на волю, Гмырак прыехаў дамоў, дзе троху чытаў, троху вучыў дзяцей у суседа-пана, а найболей сядзеў, заціснуўшы вусны, і слухаў ад бацькі розныя дакоры. У 1908 годзе яму ўдалося паступіць у прыватную тэхнічна-прамысловую школу ў Варшаве, якую скончыў у 1912 годзе. У Варшаве Гмырак пазнаёміўся з беларускім рухам і сам прымкнуў да яго. Гэта была новая непрыемнасць для бацькоў, і на гэты раз абое ішлі ў адно проціў няўдалага сына. Шмат было прыкрасцяў. Але сын незвычайна любіў усё роднае, любіў родны народ. Чытае, напрыклад, меншая сястра аб расійскім «прянике» і думае, што гэта беларускі пранік да бялізны,— Лявон з радасцю крычыць: **«Вось беларускае дзіця»**. Паставіў яго бацька (тады ён ужо меў свой фальварачак ля Пархвенава) даглядаць работнікаў, а Лявон, пабачыўшы, як адной старой бабульцы цяжка цягаць кошыкі з бульбаю, сам працуе за яе цэлы дзень, забыўшыся на сваю ролю прыганятага».

Восенню 1912 года, паведамляе далей М. Гарэцкі, Лявона забралі ў салдаты, некалькі месяцаў служыў ён у Маскве ў грэнадзёрах, але пазней быў адпушчаны па льгоце. Вярнуўшыся ў Вільню, працаваў па сваёй спецыяльнасці, працаваў і як просты работнік. Самаахвярна супрацоўнічаў у беларускім друку, пакінуў шмат артыкулаў, «пісаў ён і папулярныя рэчы ў месячніку «Лучынка», даў спробу чыста народнага апавядання. Але ўсё гэта, на думку Гарэцкага, «самая нязначная частка таго, на што можна было спадзявацца».

Урэшце, М. Гарэцкі расказаў пра апошні шлях маладога пісьменніка: «Вайна 1914 года захапіла і Лявона. Блізка году прабыў ён у апалчэнскай дружыне ў Коўне, а пасля як прапаршчык лайшоў на пазіцыю, і ў баях пад крэпасцю загінуў 30-га чэрвеня 1915 года, здабыўшы за адвагу Георгіеўскі крыж».

Гісторыкі беларускай літаратуры, здаецца, яшчэ не звярнулі ўвагу на адну загадкавую і трагічную асаблівасць: нашу літаратуру і нацыянальную культуру ў пачатку XX стагоддзя стваралі зусім маладыя людзі. І большасць іх паміралі маладымі.

Аўтару геніяльнага «Вянка» было толькі 22 гады. Сяргей Палуян закончыў самагубствам на дваццатай вясне свайго жыцця. Менш вядомы яго сучаснік, паэт і карэспандэнт «Нашай Нівы» Альфонс Петрашкевіч жыў усяго 24 гады. Алесь Гарун крыху больш — 33 гады. Аўтару першай «Гісторыі беларускай літаратуры» М. Гарэцкаму ў 1920 годзе споўнілася 27 гадоў. Браніслаў Тарашкевіч апублікаваў (з вялікімі цяжкасцямі і са спазненнем!) «Беларускую граматыку для школ» (1918), калі яму было 24 гады. Аўтарка «Курганнай кветкі» (1914) — дваццацігадовая дзяўчына Канстанцыя Буйло. Сярэдні ўзрост тых, хто найбольш друкаваў вершы, апавяданні, артыкулы карэспандэнцыі ў «Нашай Ніве», часопісах «Маладая Беларусь», «Лучынка» — недзе каля 20—22 гадоў.

Беларускія «блудныя сыны» і дочкі «Северо-Западного края» Расійскай імперыі!

Да трыццацігадовых Янкі Купалы, Якуба Коласа, Антона Луцкевіча і Вацлава Ластоўскага яны звярталіся з сыноўняй павагай — дзядзька. Алаіза Пашкевіч, якой было таксама трыццаць, калі пачалі выходзіць газеты «Наша Доля» і «Наша Ніва», стала Цёткай беларускай літаратуры.

Гэта, відаць, і была вядомая ў нашым літаратуразнаўстве паскоранасць. У дачыненні да жыццёвага лёсу творцаў яна азначала гераічны прарыў з нябыту ў быццё. Гераізм і трагічнасць — прыкметы беларускай нацыянальнай культуры. Трагізм незакончанасці творчага выяўлення: тады, калі яно пачалося занадта позна, як у Багушэвіча і шмат каго з яго паслядоўнікаў-нашаніўцаў; і асабліва тады, калі жыццё абрываецца ў пачатку творчага ўзыходжання, як гэта сталася з Гмыракам.

Творчая індывідуальнасць пісьменніка выявілася неяк раптоўна ў 1913—1914 гадах: на старонках «Нашай Нівы» і блізкіх да яе выданняў (зборнік «Вялікодная пісанка», часопіс «Лучынка») з'явіліся таленавітыя публіцыстычныя артыкулы і вясковае апавяданне «Васілёва вяселле». Яны звярнулі на аўтара пільную ўвагу беларускіх чытачоў і літаратурнай грамадскасці. Л. Гмырак цяпер — вядучы публіцыст газеты, яе карэспандэнт і дарадчык.

У архіве «Нашай Нівы» (аддзел рукапісаў Фундаментальнай бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай рэспублікі, фонд 21) захаваліся аўтографы некалькіх артыкулаў Мечыслава Бабровіча і лістоў у рэдакцыю. Артыкулы (з рэдакцыйнымі папраўкамі і скарачэннямі) друкаваліся ў газеце за 1914 год. Лісты высвятляюць творчую асобу пісьменніка, яго светапогляд, літаратурныя схільнасці і антыпатыі. Апрача таго, яны нешта даюць для яго біяграфіі, мабыць, паслужаць ключом для архіўных пошукаў, без якіх яго жыццяпіс нельга пакуль што напісаць.

У лісце ад 25 лютага 1914 года Мечыслаў Бабровіч просіць прыслаць яму ў Варшаву беларускія кніжкі, у першую чаргу «Вянок» Максіма Багдановіча, на які абяцае напісаць рэцэнзію. Скардзіцца на сваю ізаляцыю ад нацыянальна-культурнага руху: «Жыву я ў чужой старане, далёка ад беларускага жыцця, находжуся, адным словам, зусім не ў «курсе спраў»... Вось цяпер мне яшчэ некалькі месяцаў прыдзецца жыць у Варшаве». Просіць даць адрасы варшаўскіх беларусаў, пазнаёміць з Гальяшом Леўчыкам, якога, паводле яго слоў, тут хваляць. Да паштовых марак, дасланых для аплаты Багдановічавага «Вянка», дабаўляе яшчэ маркі на 60 капеек для аплаты падпіскі на дзіцячы часопіс «Іскрачка», які планаваўся нашаніўцамі, аднак не здзейсніўся. Часопіс планаваўся на 1915 год, і М. Бабровіч просіць пасылаць яго на адрас: «Паштовая станцыя Даўгінава, Віленскай губерні, Шымкоўшчына, С. І. Бабровічу».

С. І. Бабровіч, бясспрэчна,— бацька пісьменніка, а Шымкоўшчына—вёска, альбо, хутчэй, фальварак, бо ў «Слоўніку назваў населеных пункаў Мінскай вобласці» Яўгена Рапановіча вёскі пад такой назвай няма. У лістах пісьменнік называе яшчэ два свае часовыя прыстанішчы. 20 студзеня 1914 года ён просіць прысылаць «Нашу Ніву» на адрас: «Паштовая станцыя Іван-горад Люблінскай губерні, Сабешынскае сельскагаспадарчае вучылішча ў маёнтку Бржазова, тэхніку-практыканту М. Бабровічу». А на адным з канвертаў яго, пазначаным паштовым штэмпелем «Варшава, 12. 5 (19) 14», ёсць адрас-аўтограф: «От М. С. Бобровича из Варшавы, Золотая ул., дом № 56, кв. I». Пісьменнік адчуваў сябе ў гэтым горадзе чужым, жыў беларускімі справамі, марыў праз год канчаткова асесці ў роднай Даўгінаўшчыне.

Перапіска Л. Гмырака з рэдакцыяй «Нашай Нівы» мала што дадае да скупых звестак пра яго жыццё, затое раскрывае кола яго пісьменніцкіх інтарэсаў, дачыненні да розных плыняў у беларускім адраджэнскім

эт выкарыстоўвае кругавы рытм. З канца папярэдняга радка ён пераносіцца на наступны, такім чынам утварае кругі, карагоды, сугучныя тым, якімі водзіць нябогу завіруха. У канцы верша завіруха перамагае, над паміраючым героем круглая гурба снегу — вось вам і лагічнае, сэнсавае пацвярджэнне рытмічнага зместу верша».

«Гарун — вялікі, непаўторны 'майстра»...— заміраe паэтка. У вялікіх вачах слёзы. Зала заварожана прыціхае. І, не даючы сабе і нам перадыху, Вера тут жа дадае: «Праўда, актрыса, выканаўца вершаванага перакладу са сцэны (дарэчы, таксама англічанка), напэўна, не адразу асэнсавала, чаму ўвесь час на рэпетыцыях ёй даводзілася круціць галавой. Мой пераклад, які захаваў гэтую асаблівасць, не даваў ёй стаяць нерухома».

Круціць галавою і Вера, для яе іскрыстага тэмпераменту, які літаральна праменіцца на нас, не хапае месца — Вера даўно ўжо пакінула зручнае крэсла, яна побач з намі: ходзіць, даводзіць, дэкламуе. Не хапае і часу, хоць дзве гадзіны лекцыі напоўніліся нечаканымі адкрыццямі аб прыродзе вершаў савецкага Купалы і іх сувязях з ранняй лірыкай, песнямі роспачы, новымі думкамі пра паэтычныя вынаходніцтвы Багдановіча і Коласа.

«Неверагодна,— падумалася нам: — Хто гэта? Памылкова народжаная англічанкай беларуска? А можа — украінка або полька: сваімі перакладамі Вера Рыч узбагаціла таксама культуры і гэтых народаў?»

У Кіеве, дзе таксама пабывала Вера, людзі падыходзілі да яе і гладзілі па плячах — пяшчотна, як маці ці дачку. Ад усяго ўкраінскага сэрца прымалі яе ў дочкі і ў маці. Бо нельга не прыняць у сям'ю чалавека, які сам узяў на сябе часціну яе болю, які адарыў яе магутнай цеплынёй творчага духу, далёка ад дому бярог і ратаваў яе здабыткі. І захаванне, адоранае новым гарачым дыханнем, гучыць на ўвесь свет паэтычнае слова: украінскае, беларускае, стараанглійскае, польскае. Яно і пякельнае, і гаючае, і неўміручае — пераказанае вуснамі Веры Рыч, нашай Веры.

На факультэце нам сустрэўся аспірант кафедры літаратуры Сева Рагойша. «А якая тэма вашых доследаў?» — прыязна запыталася Вера. «Алесь Гарун». Імя выбухнула як заклік, і Вера ўжо расчулена і парывіста абняла свайго беларускага калегу. Не зважаючы на здзіўленыя позіркі навокала, абняла за мужнасць, любоў і веру ў вялікага паэта, што так імгненна паяднаў іх, такіх розных. Абняла, быццам спрабуючы засланіць нас ад бруду і зняваі, што выліліся на Гаруновы плечы, ад драпежнага бяспамяцтва і трагедыі нашай без'языкасці, ад хмар Чарнобыля над мінскімі дахамі.

І захацелася стаць побач і спрычыніцца да маўклівага абраду, і абняць, ды не рукамі, а цэлымі карагодамі нашых душ гэтую жанчыну, якая нясе непакорнае і падчас невымоўнае слова шматпакутнай зямлі ліцвінаў «на свет цэлы».

**Аліна МЯСНІКОВА,**
**студэнтка філфака БДУ**
**імя У. І. Леніна.**

---

руху. У шэрагу сваіх лістоў пісьменнік прапанаваў выдаваць пры «Нашай Ніве» 2—3 разы ў год «Работніцкую лістоўку», альбо «Работніцкую пісанку», каб друкаваць у ёй праблемныя артыкулы пра жыццё беларускіх рабочых і парабкоў, карэспандэнцыі і хроніку рабочага руху, вершы і іншыя творы. «Падумайце, дзядзька, аб гэтым,— заклікаў ён рэдактараў, — парайцеся, пагаварыце з другімі. Справа вельмі важная, варта яе наладзіць. Калі б не знайшлося другіх супрацоўнікаў, я адзін абавязваюся пісаць гэтулькі стаццей, колькі будзе трэба». Раіў звярнуцца па дапамогу да Ц. Гартнага, А. Гурло, да рабочых-беларусаў, якія працавалі па розных гарадах. Абяцаў арганізаваць «невялікія складкі, як гэта робяць свядомыя рускія». Урэшце, Гмырак прапанаваў ідэйныя прынцыпы новага выдання: «Беларуская работніцкая лістоўка павінна стаяць на становішчы класавай барацьбы. Партыйнага, а тым больш фракцыйнага характару насіць яна не павінна. Работніцкая праграма — адна і тая ж у народнікаў і ў марксістаў... «Спрэчных пунктаў» лепей не чапаць, калі ўпамянуўшы мімаходам. Трэба прыпамінаць, што патрэбна салідарнасць усіх напрамкаў у супольных выступленнях...»

Л. Гмырак быў паслядоўнікам радыкальна-народніцкай канцэпцыі «сялянска-работніцкага сацыялізму» і абаронцам вясковага «міру», сялянскай абшчыны. Сутнасць яе — у спадзяванні на адзінства ўсіх працоўных — сялян-працаўнікоў, гарадскіх работнікаў і народнай інтэлігенцыі, супроцьпастаўленых «класу капіталістаў», пад якімі разумеліся буйныя абшарнікі, фабрыканты, вясковыя «ліхвяры-міраеды», урадавая бюракратыя.

Літаратурныя погляды Л. Гмырака вызначаюцца шчырым дэмакратызмам, натуральнай непадробленай народнасцю. Яго крытычныя і публіцыстычныя выступленні добра ўпісваліся ў радыкальна - дэмакратычную плынь газеты «Наша Ніва», асабліва палемічныя артыкулы («Яшчэ раз аб сплачванні доўгу» і інш.), дзе ён спрачаўся з артыкулам Юркі Верашчакі (В. Ластоўскага) «Сплачвайце доўг» (1913 г., 5 ліп.) і падтрымліваў вострапалемічнае выступленне «Аднаго з Парнаснікаў» (Я. Купалы) «Чаму плача песня наша?» (1913 г., 26 ліп.). Спрэчка гэтая ў нас празмерна «палітызавалася», у ёй бачылася толькі сутыкненне дэмакратычных і ліберальных тэндэнцый у крытыцы. А на самай справе гэта было часовае разыходжанне дзвюх тэндэнцый у літаратуры, якія дапаўнялі адна адну: выкрыццё існуючага грамадска-палітычнага ладу царскай Расіі, бяспраўнага становішча ў ёй беларусаў, з аднаго боку, і ўслаўленне красы роднага краю, прыгажосці і гераізму працоўнага народа, яго духоўнага подзвігу, з другога боку.

Папрацаваўшы ў роднай літаратуры ўсяго тры гады (1913—1915), Л. Гмырак пакінуў адносна багатую і шматжанравую пісьменніцкую спадчыну. Яму бясспрэчна належыць даволі прафесійна напісанае апавяданне з вясковага жыцця «Васілёва вяселле», тры літаратурна-крытычныя нарысы (названы вышэй палемічны артыкул, «Беларускае нацыянальнае адраджэнне» «Тарас Шаўчэнка») і дваццаць грунтоўных публіцыстычных выступленняў на разнастайныя тэмы, якія і сёння застаюцца самымі актуальнымі для нашага нацыянальнага Адраджэння. Дасціпна і таленавіта абараняў публіцыст гістарычнае права народа на сваю родную мову («Жыла, жывець і будзе жыць!», «Мова ці гутарка», «Хто з намі, хто проціў нас», «Нацыя і рэлігія»), на сваю нацыянальную школу («Якой нам трэба школы», «Сіла з народу», «Аб вясковай інтэлігенцыі» і інш.), вызначаў шляхі духоўнага адраджэння вёскі («Прыгонная спадчына», «Вясковае буянства і барацьба з ім», «Хто вінаваты?»), яе сацыяльна-эканамічнага адраджэння (цыкл артыкулаў «Земства і воласць», «Колькі слоў аб хутарах» і інш.).

Відавочныя мастацкія вартасці яго апавядання «Васілёва вяселле» (каларытныя сялянскія характары, жывапісная пластычнасць вобразаў) сведчылі, што аўтар мог стаць цікавым празаікам. Аднак зноў жа не паспеў развіць свой талент. Яму не хапала ведання жывой народнай мовы, на што звярнуў увагу З. Бядуля ў нататцы «Думаць і гаварыць трэба па-беларуску» («Наша Ніва», 24 кастрычніка 1913 г.), падпісанай крыптонімам С. П. (Самуіл Плаўнік).

На маю думку, ёсць падставы лічыць Лявона Гмырака аўтарам яшчэ аднаго апавядання пад назвай «Хутара-ра, хутара», апублікаванага годам раней у альманаху «Маладая Беларусь» (1912) і падпісанага псеўдонімам Лявон Хмуры. Ёсць шмат аргументаў на карысць гэтай здагадкі. У сваіх лістах ён абяцае пісаць для «Маладой Беларусі», але толькі пры ўмове, што яго творы будуць друкаваць кірыліцай (першая кніжка «Маладой Беларусі» ў 1912 годзе друкавалася часткова лацінкай, і якраз гэтым шрыфтам было набрана апавяданне Лявона Хмурага). Лексіка і стылістыка апавядання блізкія да вядомых тэкстаў Гмырака. Тэма апавядання — хутарызацыя, да яе адносяцца скептычна Гмырак і Лявон Хмуры. Урэшце — семантычная тоеснасць псеўданімаў: паводле «Слоўніка беларускай мовы» Івана Насовіча (па ім пісьменнікі-пачаткоўцы вывучалі беларускую мову) «гмыра» альбо «гмура» азначае суровага, хмурага чалавека.

Урэшце, ёсць важкія аргументы на карысць таго, што Мечыслаў Бабровіч — аўтар шэрагу артыкулаў, апублікаваных у рускай віленскай «Вечерней газете» за 1912—1915 гг. («Из белорусской жизни». «Из жизни белорусов. Новый курс», «Выступление белорусов-рабочих», «Борьба за родной язык», «Принципиальный спор», «М. Горький о белорусах»), падпісаных псеўданімам Бо—вич. Грамадска-палітычная «Вечерняя газета» ліберальнага кірунку (1912—1915) выкарыстоўвалася нашаніўцамі для прапаганды нацыянальнага адраджэння і беларускай літаратуры.

Паводле сведчання М. Гарэцкага, Мечыслава Бабровіча любілі і паважалі пісьменнікі. У сваім памінальным цыкле «Задушкі» ягоны блізкі сябра З. Бядуля пісаў:

**Лявон Гмырак, з душой магутнай**
**Любіў бязмер свой край пакутны,**
**Сасонка Віленшчыны сумнай,**
**Дзіця Вяльлі, ракі задумнай,**
**Хацеў рассеяць ён туман,**
**Хацеў ён волі для сялян.**
**Святлейшых, лепшых, шчасных дзён**
**Жадаў для брата свайго ён...**

Сёння, калі на Беларусі падымаецца новая хваля адраджэнскага руху, а ва ўсім свеце народы вяртаюцца да першакрыніц сваёй традыцыйнай культуры, літаратурная спадчына гэтага пісьменніка, равесніка Максіма Багдановіча і аднолькавага з ім нешчаслівага лёсу, блізкая нам па духу.

**Уладзімір КОНАН.**

---

## З ПОШТЫ «ЛіМа»

# З КАЛІДОРА—НА СМЕТНІК?

У шмат якіх публікацыях дзеячы беларускага адраджэння выказваюць думку, што знікненне беларускай мовы прывядзе да знішчэння нацыянальнай культуры і свядомасці. А гэта, у сваю чаргу, прывядзе да паступовага скасавання беларускай дзяржаўнасці. Яны ў асноўным маюць рацыю. Але трэба мець на ўвазе, што на гэткае спрэчнае пытанне, як суадносіны мовы, нацыі і дзяржавы, адназначнага пытання даць немагчыма.

На першы погляд відавочна, што без сваёй мовы народ страчвае многія рысы нацыянальнай своеасаблівасці. Першы крок да асіміляваання народа — гэта страта мовы. Але ці заўсёды адсутнасць асобнай нацыянальнай мовы нязменна вядзе да страты дзяржаўнасці? Шмат дзяржаў гаворыць на іспанскай, англійскай, партугальскай мовах.

Дык вось. Абапіраючыся на сусветны вопыт, можна дапусціць, што Беларусь і без афіцыйнага ўжывання на яе тэрыторыі роднай мовы застанецца ў большай ці меншай ступені незалежнай дзяржавай. Але што гэта будзе за дзяржава? Цяжка ўявіць, якія катаклізмы будуць чакаць у такім выпадку тутэйшых жыхароў, аб'яднаных толькі тэрытарыяльным інстынктам. Хутчэй за ўсё мы з еўрапейскага калідора, у які і так дзверы адчыняюць нагамі, ператворымся ў сметнік. Дык няўжо гэткая перспектыва задавальняе тых, хто праводзіць адкрыты і скрыты сабатаж закона аб мовах?

**Віктар НАГНІБЯДА.**
г. Масква.

---

## АБ'ЯВА

### МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ БССР
### АБ'ЯЎЛЯЕ КОНКУРС
### на замяшчэнне пасад:

**галоўных і вядучых спецыялістаў міністэрства** (музыка, выяўленчае мастацтва, тэатр, кіно, музейная справа, бібліятэчная справа, клубная справа, народная творчасць, фальклор, самадзейнае мастацтва);

**начальнікаў аддзелаў** (эканамічнага, развіцця матэрыяльна-тэхнічнай базы, капітальнага будаўніцтва, міжнародных культурных сувязей);

**галоўнага бухгалтара;**

**кансультанта па сацыяльна-прававых пытаннях.**

Для ўдзелу ў конкурсе неабходна падаць наступныя дакументы: асабісты лісток па ўліку кадраў, аўтабіяграфію, копію дыплома, дзве фотакарткі памерам 6x4 см.

Абавязковай умовай для ўдзелу ў конкурсе з'яўляецца свабоднае валоданне беларускай мовай.

Тэрмін падачы заяў на конкурс — 1 месяц з дня апублікавання аб'явы.

З умовамі конкурсу і заключэння кантракта можна азнаёміцца ў Міністэрстве культуры.

Тэлефон для даведак: 29-65-49. Адрас: 220010, Мінск, вул. Савецкая, 9.

---

### БЕЛАРУСКАЯ ОРДЭНА ДРУЖБЫ НАРОДАЎ ДЗЯРЖАЎНАЯ КАНСЕРВАТОРЫЯ ІМЯ А. В. ЛУНАЧАРСКАГА

**АБ'ЯЎЛЯЕ ПРЫЁМ**
**у аспірантуру-стажыроўку ў 1991 годзе з адрывам ад вытворчасці па спецыяльнасцях:**

I. **Інструментальнае выканальніцтва** (фартэпіяна; аркестравыя струнныя інструменты: скрыпка, альт, віяланчэль, кантрабас; аркестравыя духавыя інструменты: габой, фагот, валторна, трамбон; народныя інструменты: баян, цымбалы, балалайка, домра; камерны ансамбль).
II. **Сольныя спевы.**
III. **Дырыжыраванне** (аркестравае, харавое).
IV. **Кампазіцыя.**

У асістэнтуру-стажыроўку прымаюцца грамадзяне СССР не старэй за 35 гадоў, якія маюць закончаную вышэйшую адукацыю па абранай спецыяльнасці і праявілі здольнасці да педагагічнай і мастацка-творчай дзейнасці.

Той, хто паступае ў асістэнтуру-стажыроўку павінен мець вопыт практычнай работы па профілі абранай спецыяльнасці не менш за два гады пасля заканчэння вышэйшай навучальнай установы.

Маладыя спецыялісты дапускаюцца да ўдзелу ў конкурсных экзаменах у асістэнтуру-стажыроўку непасрэдна пасля заканчэння ВНУ па рэкамендацыі саветаў вышэйшых навучальных устаноў.

Заява ў асістэнтуру-стажыроўку падаецца на імя рэктара кансерваторыі з указаннем абранай спецыяльнасці. Да заявы дадаюцца наступныя дакументы:

— асабістая картка па ўліку кадраў з трыма фотаздымкамі;
— аўтабіяграфія;
— характарыстыка з апошняга месца працы, выдадзеная для паступлення ў асістэнтуру-стажыроўку;
— выпіска з пратакола пасяджэння савета для асоб, рэкамендаваных у асістэнтуру-стажыроўку саветам ВНУ, непасрэдна пасля заканчэння вышэйшай навучальнай установы;
— натарыяльная завераная копія дыплома аб заканчэнні ВНУ;
— копія працоўнай кніжкі;
— медыцынская даведка аб стане здароўя з указаннем магчымасці навучання ў асістэнтуры-стажыроўцы (форма № 086-У (№ 286);
— рэферат па абранай спецыяльнасці.

Паступаючыя ў асістэнтуру-стажыроўку здаюць конкурсныя экзамены па спецыяльнасці, калёквіуму, філасофіі і адной з замежных моў у аб'ёме дзейнай праграмы для вышэйшых навучальных устаноў.

Асобам, дапушчаным да здачы ўступных экзаменаў, для падрыхтоўкі прадастаўляецца дадатковы водпуск на 30 каляндарных дзён з захаваннем заработнай платы па месцы працы.

Дакументам, які пацвярджае права на адпачынак, з'яўляецца паведамленне за подпісам рэктара аб допуску да здачы экзаменаў.

Прыём дакументаў з 1 па 15 верасня. Уступныя экзамены праводзяцца з 1 па 15 кастрычніка, пачатак заняткаў — 1 лістапада.

Па даведкі звяртацца на адрас: 220600, г. Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, 30. Тэл.: 26-11-76.

**АДРАДЖЭННЕ**

# ДЗЕЛЯ КАРЫСЦІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ...

Трагедыю многіх дзеячаў беларускай культуры XIX — пачатку XX стагоддзя, лёс якіх быў звязаны з пакутным і гераічным змаганнем за Бацькаўшчыну, складала тое, што яны ўсведамлялі свае карані, ды амаль не мелі магчымасці працаваць на карысць радзімы. Адзін з іх — мастак Казімір Альхімовіч, 150-годдзе якога адзначалася летась.

Амаль равеснік К. Каліноўскага, яго аднадумца, ён за ўдзел у паўстанні 1863 года быў сасланы ў Верхаторыю за Уралам. Які ж быў жыццёвы шлях К. Альхімовіча? Нарадзіўся 20 снежня 1840 года ў маёнтку Дзембрава на Шчучыншчыне ў сям'і небагатага шляхціца. Меў брата Гіяцынта, у будучым таксама мастака. Скончыў гімназію ў Вільні, пасля служыў кіраўніком маёнтка пад Кіевам. Прымаў актыўны ўдзел у паўстанні К. Каліноўскага. На жаль, больш падрабязных звестак пра гэты перыяд яго жыцця пакуль няма. У ссылцы ў Сібіры быў да 1869 года. Тут ён многа маляваў з натуры. Занатоўваў падзеі з жыцця сасланых, пісаў рэлігійныя кампазіцыі, з продажу якіх жыў. У Нацыянальным музеі ў Варшаве захоўваюцца яго малюнкі тых часоў.

Па амністыі вярнуўся на радзіму. Вельмі хацелася стаць сапраўдным мастаком, і К. Альхімовіч з 1871 па 1873 гады вучыцца ў класе малюнка ў прыватнай майстэрні В. Герсана ў Варшаве. У юбілейным артыкуле, прысвечаным 50-годдзю творчай дзейнасці К. Альхімовіча і апублікаваным у часопісе «Swiat» за 8 сакавіка 1913 года, падкрэсліваецца, што мастак быў адным з выдатных і найбольш перспектыўных вучняў В. Герсана. Пецярбургская Акадэмія мастацтваў, якая была патронам Варшаўскай школы, двойчы ўзнагародзіла К. Альхімовіча сярэбраным медалём за школьныя працы.

Набывае новыя веды і ўдасканальвае сваё майстэрства малады творца з 1873 па 1875 год у Мюнхенскай Акадэміі мастацтваў пад кіраўніцтвам прафесара Вагнера. Тут таксама заваёўвае медалі рознага рангу, шмат выстаўляецца. З 1876 па 1878 год жыве ў Францыі, спачатку ў брата ў Перпігнані, пасля ў Авоне, затым у Фантэнбло, дзе кіруе майстэрняй мастацкіх аздобаў. І зноў новыя творы, прадстаўнічыя выставы. З 1878 года застаецца жыць у Варшаве, дзе з 1890 года выкладае малюнак у школе жывапісу і разьбы Б. Пасвіковай. Памірае ў снежні 1917 года ў Варшаве.

К. Альхімовіч пражыў доўгае жыццё. Многае паспеў зрабіць гэты таленавіты мастак з шырокім дыяпазонам інтарэсаў і магчымасцей. Ён дасканала валодаў разнастайнымі мастацкімі тэхнікамі — гэта графіка: туш, аловак, гуаш, акварэль; манументальны жывапіс (разам з Т. Попелем і А. Пятроўскім) — касцёл св. Кацярыны ў Пецярбурзе, роспісы па фаянсе і працэляне (напрыклад, малюнак «Дзяўчынка» — 1877), мадэляванне з гліны, разьба па дрэве (аздоба касцёла ў Бярэзінах). Але найбольшых поспехаў мастак дасягнуў у станковым жывапісе.

Росквіт творчай дзейнасці К. Альхімовіча прыпадае на той час, калі ў беларускай мастацкай культуры развіваўся своеасаблівы тып рамантычных адносін да жыцця, які быў народжаны ідэямі нацыянальна-вызваленчай барацьбы і праяўляўся ў кульце роднага краю, паэтызацыі яго гісторыі, народных міфаў і легендаў. Беларуская інтэлігенцыя, якая тады толькі фарміравалася, старалася ў сваёй дзейнасці адкрываць высокія каштоўнасці жыцця народа. Да такой інтэлігенцыі належаў і Казімір Альхімовіч.

Творы мастака ў аснове сваёй пераважна рэалістычныя, але ўсе яны ў большай ці меншай ступені сведчаць пра рамантычнае светаўспрыманне аўтара. Рамантычныя захапленні К. Альхімовіча развіваліся не без уздзеяння паўстання 1863 года, якое адыграла вялікую ролю не толькі ў творчасці мастака, але і ў яго жыцці ўвогуле. Як асоба ён вырас з гэтага паўстання, увабраўшы ў сябе лепшыя рысы беларускай шляхты: нацыянальную свядомасць, чысціню парываў і імкненняў, стойкасць светапогляду.

Не здолеўшы ўвасобіць ў рэальнае жыццё свае грамадскія інтарэсы і справы, звязаныя з нацыянальным вызваленнем Беларусі, К. Альхімовіч стараецца ўсё ж духоўна абудзіць яго, уздзейнічаць на патрыятычныя пачуцці, адкрываючы ў сваіх жывапісных палотнах старонкі слаўнага мінулага.

Мастак усведамляе сябе як тутэйшы, як ліцвін, духоўная спадчына якога — гісторыя старажытнабеларускай дзяржавы, дзе так цесна перапляліся лёсы беларусаў і жмудзінаў (летувісаў). Нарадзіўшыся ў цэнтры летапіснай Літвы, на заходніх землях Беларусі, К. Альхімовіч ганарыўся сваім краем, роднай беларускай мовай. Па ўспамінах сучаснікаў, гаварыў Альхімовіч менавіта на беларускай мове.

Адзін з лепшых твораў, у якіх мастак звяртаецца да мінулага сваёй зямлі,— «Пахаванне Гедыміна». Напісаная ў 1883 годзе, карціна мела еўрапейскую вядомасць, атрымала высокія ўзнагароды на выставах, у Пецярбурзе, Парыжы, Варшаве.

Пошук значнай гістарычнай асобы быў для аўтара сцвярджэннем велічы мінулага, спосабам духоўнага ўзбагачэння сучаснасці. Увагу мастака прыцягнуў і трагічны лёс Кейстута. У творы К. Альхімовіча «Адпачынак Кейстута» выхаплены з жыцця князя толькі адзін момант, кароткі сон у часе цяжкага ваеннага пахода.

Працягам гэтай тэмы ўспрымаецца палатно «Вітаўт ля магілы Кейстута», дзе Вітаўт, сышоўшы з каня, стаіць нерухома, паглыблены ў свае думкі перад курганом, даючы клятву вернасці ці помсты.

Паказваючы гераічных асоб беларускай даўніны, аўтар паглыбляецца ў іх душэўны стан. Таму невыпадкова найчасцей выбірае ўласцівыя для рамантыкаў абвостраныя сітуацыі, у якіх больш поўна і натуральна выяўляюцца ўнутраныя рухі чалавека. Мастак раскрывае сілу пачуццяў таго, хто сутыкаецца з подыхам смерці («Апошнія хвіліны Міхала Глінскага ў турме», «Падрыхтоўка да смерці Самуіла Збароўскага», «Хрысціянскі пакутнік», «Над труной Сапліцы»). Яшчэ адна трагедыя адбываецца на мурах замка ў «Абароне Альштына». У 1587 г. ворагі захапілі дзіця кіраўніка абароны Каспара Карлінскага і пагражаюць выставіць пад гарматныя стрэлы, калі Альштын не будзе аддадзены без бою. Перад ім—жонка на каленях, якая моліць захаваць жыццё дзіцяці, вакол — гараджане. Карлінскі павінен прыняць рашэнне. Гэта вялізнае палатно (186×272 см) і сёння ўражвае гледача псіхалагічнай распрацаванасцю вобразаў, майстэрствам жывапісу, згарманізаванасцю тонаў і фарбаў (экспануецца сёння ў Варшаве ў музеі Войска Польскага).

У розныя часы К. Альхімовіч звяртаўся да падзей, звязаных са ссылкаю на Урал. Гэтаму перыяду прысвечаны карціны: «Сцэны з жыцця на Урале», «Катастрофа ў капальні», «Смерць у выгнанні», «Пахаванне на Урале». Некаторыя з іх вядомыя толькі па публікацыях у тагачасным друку. Але адзін з лепшых твораў — «На этапе» захаваўся і экспануецца зараз у Варшаве ў музеі літаратуры імя А. Міцкевіча. Позірк гледача спыняецца тут то на жанчыне, якая сядзіць пасярэдзіне сырога няўтульнага памяшкання з дзіцяткам на руках і чытае кнігу, то на мужчыне, што стаіць ля сцяны, панура схіліўшы галаву. Кароткі прыпынак ссыльных на доўгай і цяжкай дарозе ў Сібір. Сітуацыя, перажытая самім аўтарам. Таму такія блізкія і дарагія яму гэтыя людзі. Вобразы іх сагрэты цёплым сардэчным пачуццём.

Беларускі рамантызм 2-й паловы XIX ст. на хвалі нацыянальнага ўздыму вырастаў і з этнаграфічнага зместу жыцця. Невычэрпнай крыніцай былі народныя абрады, вераванні, святы. У звычайным шукалі выключнае, яркае, сцвярджаючы прыгажосць і паэтызуючы народнае жыццё. Асабліва шырокая плынь этнаграфічнага рамантызму існавала ў літаратуры, але не абышла і жывапісу.

Будучы хрысціянінам, пішучы абразы для касцёлаў, мастак усё ж цягнуўся душой да веры сваіх далёкіх продкаў, жыхароў летапіснай Літвы. Таму такія таямнічыя і чароўныя, поўныя духоўнай моцы вобразы на карцінах «Апошні жрэц Літвы з дачкой Плёнтай», «Ліздэйка на руінах храма Перуна», «Мілда». Да народнага побыту і звычаяў звяртаўся К. Альхімовіч у работах «Дажынкі», «Жніво», «Літоўская хата», «Наём работнікаў». Асабліва мілыя і прывабныя, эстэтычна ўзвышаныя ў яго творах вясковыя дзеці. Увогуле трэба адзначыць, што вобразы дзяцей сустракаюцца ў многіх карцінах мастака.

Пры ўсёй рамантызаванасці і экспрэсіўнасці пейзажу ў сюжэтна - тэматычных палотнах родныя краявіды ў самастойных пейзажных творах паэтычна стрыманыя, задуменныя, прасякнутыя светлым смуткам, любоўю да свайго Прынёманскага краю, дзе мастак бываў толькі наездамі.

У графічных работах К. Альхімовіч таксама застаецца верным рамантычным імкненням, звяртаючыся да гістарычных асоб і падзей. Захавалася многа яго малюнкаў алоўкам, тонкім пяром, тушшу, на тонкай паперы, дзе сустракаюцца і выявы выдатных дзеячаў мінулага (Павел Ян Сапега, Крыштаф Радзівіл і іншыя), і эцюды адзення, зброі, мэблі далёкіх часоў, і фрагменты арнаментаў. Мастак робіць ілюстрацыі да твораў свайго земляка, вялікага паэта А. Міцкевіча. Па-свойму прачытвае ён і «Віталяраўду» Ю. Крашэўскага, ствараючы цікавыя гераічна-казачныя вобразы. Па-майстэрску карыстаецца таксама акварэллю, гуашшу. Лепшыя з твораў — ужо названы «Адпачынак Кейстута», «Малітва арабаў», праект насценных фрэсак у касцёле.

Адна з работ апошняга перыяду творчасці — «Шляхціц і селянін» (1908). Гэтая сюжэтная карціна прасякнута ідэяй сацыяльнай роўнасці, ідэяй, якую Кастусь Каліноўскі зрабіў сцягам паўстання 1863 года на Беларусі і Летуве. Ідэалам паўстання мастак быў верны да канца жыцця. Вядома, сувязь жывапіснага вобраза са слаўнымі падзеямі тут апасродкаваная, у пэўнай ступені асацыятыўная. Ідэя нязломнасці паўстання — у вобразе старога шляхціца, які, цяжка абапёршыся на кій, размаўляе з селянінам. Шляхціц — былы ўдзельнік паўстання. Пра гэта гаворыць такая ёмкая дэталь, як шапка-канфедэратка старога чалавека, якую насілі з часоў паўстання Т. Касцюшкі і якая сведчыць пра прыналежнасць да змагароў за нацыянальнае вызваленне. І сам факт дружалюбнай гутаркі з маладым селянінам без панскай пагарды і пыхі — сведчанне дэмакратызму шляхціца, чалавечай чысціні, якая характарызавала лепшых паплечнікаў К. Каліноўскага.



«Шляхціц і селянін». 1908.

У час напісання карціны К. Альхімовічу было прыблізна столькі ж гадоў, колькі і яго герою, што дае падставу меркаваць пра аўтабіяграфічнасць вобраза, напэўна, дарагога аўтару. К 1908 году адгрымелі рэвалюцыйныя падзеі ў Расіі. На беларускіх землях ішоў уздым вызваленчага руху, нацыянальна-культурнага адраджэння. Невыпадкова мастак усім зместам карціны напамінае сваім сучаснікам, што жывы дух паўстання К. Каліноўскага, сцвярджае вельмі папулярную сярод інтэлігенцыі таго часу і канструктыўную для свайго твора ідэю класавага яднання (шляхты і сялянства) у імя высакародных ідэалаў нацыянальна-вызваленчай барацьбы.

Марына ПЯТКЕВІЧ-ЗАГІДУЛІНА.

ЛіМ

Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ БССР.

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ—33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ—33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65; Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.



Індэкс 63856

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12